«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (202), чэрвень 2023 года

Літаратурная Беларусь

Выпуск № 6 (202) (чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org/litaraturnaja_bielarus
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест





# Агні і буры

## Ідэалы беларускай культуры ва ўмовах постмадэрнасці



Аляксей РАГУЛЯ

Завяршальны этап у развіцці гістарычнага тыпу культуры — эпоха крызісу, калі спадзяванні на хуткі прыход светлай будучыні з тых ці іншых прычынаў не спраўджваюцца, а ідэалы адсоўваюцца ў невыразную далечыню ці наогул забываюцца.

У грамадскай свядомасці час існуе як спыненая сучаснасць — без руху з мінуўшчыны ў будучыню. У такой сітуацыі ідэалы абясцэньваюцца і нават высмейваюцца. Ствараецца глеба для абясцэньвання першаасновы чалавечага інстынкту — клопату пра дасканаласць чалавечага роду, пра лёс другога і трэцяга пакаленняў, а нігілізм і ірацыяналізм зацікаўленымі слаямі нахрапіста навязваюцца ў якасці светапогляднай нормы.

Так было ў эпоху крызісу антычнай цывілізацыі (элінізму), у эпоху абсалютызму, калі духоўныя рэнесансныя каштоўнасці культуры саслоўна-феадальнага тыпу гарэлі ў агнях інквізіцыі разам з іх носьбітамі.

Сутнасць сучаснага крызісу гандлёва-бюракратычнага грамадства ў беларускай культуры зафіксавана ў такіх універсаліях-фрэймах, як агні і буры, вогненная вёска, ваўчыная яма, лічбы на сэрцы.

Для таго, каб стварыць семантыку такіх бязлітасна праўдзівых і сэнсаваёмкіх сімвалаў, патрэбна вялікая мужнасць духу, прага ісціны і здольнасць розуму да бескампрамісных ацэнак сутнасці. А яшчэ патрэбна чысціня сумлення, каб «прайсці праз вернасць» самому сабе, ідэалам свайго народа.

Пра жыватворную сілу ідэалу пасля Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Язэпа Драздовіча, Васіля Быкава выдатна сказаў Анатоль Вярцінскі ад імя вайной абпаленага ўдзяцінстве пакалення:

*Высокае неба ідэала!*
*Мая душа чалавечая спала,*
*вякамі спала,*
*пакуль не ўбачыў цябе ўгары,*
*пакуль нада мной ты не зазззяла,*
*высокае неба ідэала!*
*Калі адкрыў я цябе аднойчы,*
*убачыў цябе з тваёй вышыні, —*
*сталі іншымі мае ночы,*
*сталі іншымі мае дні.*
*Ты новым сэнсам іх асвятляла,*
*Высокае неба ідэала!*

Характэрнай асаблівасцю народнай культуры з'яўляецца непадзельнае адзінства ідэалаў эстэтычнага і этычнага (маральнага), змест якіх адлюстроўваюць універсаліі народнай канцэпталогіі: харaство і людскасць. Дамінуючая каштоўнасная ўстаноўка беларускага нацыянальнага менталітэту не дапускае супрацьстаяння паміж гэтымі паняццямі.

Адзінства названых катэгорыяў вызначыла крытэрыі якаснай ацэнкі жыцця, характар нацыянальнай эўдаманіі, гнасеалагічнай і сацыяльнай утопіі. Беларускі ідэал не выносіцца за межы чалавечага свету і не бярэцца з свету трансцэндэнтнага, а вырастае з рэальнага быцця, нібы збажына на апрацаванай і засеянай раллі. Беларуская дактрына раіць не шукаць «шчасця, долі на чужым шырокім полі» (Янка Купала). «Чыстае» працоўнае ўзаемадзеянне з крэатыўнай сілай прыроды трактуецца як адзіна вартае чалавека жыццё.

На гэтым матыве трымаюцца сэнсы беларускай народнай утопіі, якая з'яўляецца абавязковым кампанентам у тэкстах беларускіх казачнікаў Рэдкага, Старога дзеда Савіцкага і іншых. «На ўзлессі дом, ад казак недалёка» (Аркадзь Куляшоў), «лава жыцейка» (Якуб Колас) і шчаслівае маленства як доказ здзейсненасці, годнасці і працягненасці нашага чалавечага быцця ў свеце — гэта вызначальныя сімвалы беларускай аксіялогіі, беларускага ідэалу, беларускай казкі жыцця. У нацыянальнай культуры гэты ідэал застаўся непарушным і ў ХХ стагоддзі, калі «век ядзерны пачаў сваё рыканне» (Пімен Панчанка). На гэтым ідэале трымаецца беларуская футуралогія, выказаная, праўда, больш моваю мастацтва, чым філасофіі.

Незавершанасць рэфлексіўнага філасофскага выказвання ў беларускай культуры даволі паспяхова кампенсуецца інтэлектуальным узроўнем медытацыі ў вобразнай форме літаратуры і выяўленчага мастацтва. У філасофскай паэме Аркадзя Куляшова «Цунамі» (1968) у эпілогу паказана чалавечае быццё, адроджанае пасля ядзернай катастрофы. Яго нязменнымі атрыбутамі застаюцца дом, жыта і дзіця, якое мае радасць бавіць час у гульні на лузе не з капронавымі, а з сапраўднымі матылькамі:

*Над сонечным мацерыком разліта*
*Духмянасць ніў спякотным*
*летнім днём.*
*Ён і яна ў цяньку сядзяць, дзе жыта*
*Шуміць зялёнай хваляй за гумном,*
*Як за кармою карабля. Пясчынкай*
*Адпачывае на руках ралля.*
*Ганяецца дзіця іх за пушынкай,*
*Падобнай на жывога матыля,*
*Сапраўднага, што ловіцца*
*за крылы.*
*А можа, гэта не яны, а іх*
*Далёкія патомкі, што ў сваіх*
*Абліччах іх далёкія аблічы*
*паўтарылі?*
*Хто б ні былі яны, а толькі зноў*
*Яны — жыцця людскога сувязныя,*
*Дзве долькі неразлучныя, якія*
*Вякам перадаюцца ад вякоў.*



Дом і ніва з'яўляюцца сталым топасам і ў беларускім жывапісе. Язэп Драздовіч, у творчасці якога «касмічныя бегі» маюць канцэптуальную значымасць, у арганічным адзінстве сялянскага дому і ландшафту бачыў унікальную каштоўнасць паразумення чалавека з абсалютным касмічным духам. Уся творчасць мастака-філосафа прасякнута пачуццём адказнасці за ўраўнаважаную дыялектыку зносін земляроба з космасам.

Гэтая раўнавага на працягу тысячагоддзяў стрымлівала энтрапію соцыуму. У Беларусі заканамерна ў XVII стагоддзі ўзнікла ідэя дзяржавы-дома — як альтэрнатыва перш за ўсё дзяржаве-казарме ўсходняга ўзору, а ў пэўным сэнсе і дзяржаве-лабараторыі заходняга ўзору.

Лука Залускі (1604—1676) у працы «Агульная філасофія» зазначыў: «Між вучонымі ідзе спрэчка пра тое, ці з'яўляецца дом першай супольнасцю ці не. Я лічу, што ў плане паслядоўнасці дом як супольнасць стаіць наперадзе іншых; ён з'яўляецца раней і за паселішча, і цывільнае грамадства, і царства; у плане ж інтэнсіўнасці гэтыя супольнасці апераджаюць дом».

У плане аксеялагічным дом быў і застаецца першаснай каштоўнасцю ў нацыянальнай культуры беларусаў. Гістарычны час быў бязлітасны да беларускага дому, асабліва ў ХХ стагоддзі:

*І дзверы ўсе ў доме*
*расчынены насцеж...*
*А людзі...*
*Чаму не ўваходзяць у дом?*
*Прыходзілі ж калісь —*
*у шчасці,*
*ў няшчасці...*
*Бо сёння расчынены дзверы*
*агнём.*

Выпалены знутры дом з расчыненымі дзвярыма… Гэты вобраз-сімвал у паэзіі Сяргея Дзяргая можа быць суаднесены і з выпаленай знутры душой пакінутага і забытага былымі сябрамі гаспадара. Становіцца зразумелай вага такіх фрэймаў у беларускай культуры, як вайна, акупацыя, квазі-свой чалавек. Аднак і ва ўмовах татальнага спустошання нацыя будзе супольны дом сваёй культуры, пачынаючы зверху, з даху, матэрыялам для якога з'яўляецца выпрабаваны на працягу тысячагоддзяў ідэал:

*Я пачынаю з мары,*
*З дыму над комінам,*
*З буслінага гнязда,*
*Якое прымацоўваю да страхі,*
*Страху кладу на латы,*
*Латы — на кроквы,*
*Якія асаджваю на плечы сцен,*
*І ў вокнах — яшчэ не зашклёных —*
*Стаўлю кветкі.*

Прыведзены ўрывак з верша Максіма Танка пераканаўча дэманструе вялікія магчымасці беларускай мастацкай фенаменалогіі ў сферы філасофскага пазнання свету.

# Няўзятая вышыня



Мікола ІЛЬЮЧЫК

У Кудзелічах яго ведалі ўсе. Малыя глядзелі з зайздрасцю на ягоную люльку, што пахла яшчэ здалёк. Здалёк чуўся і яго гучны кашаль, калі ён ішоў па вясковай вуліцы. Люлька — дзіўная штуковіна, ніхто з вяскоўцаў не карыстаўся нічым падобным. Курылі што заўгодна: папяросы, цыгаркі і нават самакруткі, шматкі газетнай паперы, набітыя табакаю, а люлька была толькі ў дзеда Андруся. Старэйшыя называлі яго з павагай — Андрэй Пятровіч, — ці, найчасцей, проста Пятровіч.

Высачэзны, каржакаваты, троху сутулы чалавек, у спружыністых кроках якога адчувалася сіла і моц, з непрыгожымі рысамі твару і вялікім носам. Разам з тым у гэтых рысах была нейкая абаяльнасць, ён быў такім мужным і такім сапраўдным. Густыя чорныя бровы атачалі высокі лоб, вочы былі яснымі і разумнымі, хоць іх валошкавы колер надта ж кантраставаў з рудыміваласамі, напалову ўжо ссівелымі, і такімі ж рудымі вусамі, што шляхетна тапырыліся ўбакі і крыху ўверх.

Калі ён усміхаўся, то ўсмешка цалкам змяняла ягоны твар. Здавалася, што тая ўсмешка сваімі промнямі разбягалася ў зморшчынках наўкол вачэй і гарэзліва хавалася недзе ў вусах. Найчасцей Пятровіч выглядаў сумным і нават хмурым, але паглядзіць на цябе — і быццам знутры засвеціцца. Ён сам мог задаць чалавеку пытанне, не гледзячы на тое, што паміж імі вялізная розніца ва ўзросце. У кагосьці матчына малако на вуснах не абсохла, а ён вайну прайшоў і нават болей за тое. З ім хацелася размаўляць, яму хацелася давяраць.

Старэйшы люд паважаў Пятровіча. З павагай і толькі шэптам вяскоўцы пераказвалі адно аднаму гісторыю Андрэя Пятровіча. Зведаў ён ліха. Спачатку на вайне, бо прайшоў яе ад пачатку і да канца, нават і болей. Рэч у тым, што ў красавіку пераможнага 1945-га года паспрачаўся ці можа нават пабіўся (так расказвалі вяскоўцы) са сваім ротным, які падымаў салдат у атаку прама пад кулямётныя чэргі, што касілі з прыгорка. На раллі і суседнім лузе ўжо ляжала шмат забітых, а лейтэнант усё крычаў, лаяўся і гнаў людзей пад кулі.

— За радзіму! За Сталіна! Уставай, сволач, разлёгся тут! — лейтэнант падбег да Андруся, размахваючы пісталетам. — Наперад!

— Лейтэнант, можа, хопіць трупаў? — азваўся Андрусь. — Хутка вечар, нешта прыдумаем. Ці ты хочаш усю роту тут пакласці? Было б за што.

— Што?! Табе няма за каго ісці ў атаку? Было б за што? — лейтэнант перайшоў на нейкі дзікі лямант. — Ці не таварыша Сталіна ты маеш на ўвазе?..

Чым скончылася тая сварка паміж шарагоўцам Чырвонай Арміі і ягоным камандзірам, ніхто дакладна не ведаў. Пятровіч не любіў такіх размоў і сам нічога нікому не распавядаў. Нехта казаў, што Андрусь проста заехаў таму лейтэнанту ў вуха, а хтосьці расказваў, быццам хацеў Пятровіч са злосці нават забіць таго лейтэнанта. Розныя чуткі хадзілі. Дакладна адно: не вярнуўся ў тую вясну Андрусь дадому.

Дачакалася Хрысціна мужа толькі на дзявятым годзе пасля сканчэння вайны. Сын Васілька за гэты час стаў амаль дарослы.

Андрусь не азлобіўся на ўвесь свет, застаўся прыязным і добрым, хоць і любіў працаваць адасоблена ад іншых. Калгасная праца дакучала, затое Андрусю не было роўных у лесе. У нарыхтоўцы драўніны ніхто не мог з ім паспрачацца ні ў колькасці, ні ў якасці нарыхтаванага. А на вырабе гонтаў не было яму роўні, бадай, на ўсім раёне.

Сын Васіль стаў сапраўдным апірышчам для сям'і. Да любой працы быў здатны. На прыгожага высокага юнака з захапленнем пазіралі дзяўчаты, але той не спяшаўся з заляцаннямі.

— Рана яшчэ. Хто да арміі шлюбам бярэцца? — адказваў юнак на спробы ўцягнуць яго ў размовы аб сямейным жыцці.

— Правільна, сынку, да арміі пад вянец толькі залётчыкі ідуць. Ды і ці самі ідуць? Сілком вядуць іх, як бугайчыкаў на повадзе, — жартаваў Андрусь, падтрымліваючы сынавы погляды.

Васіль мала разумеў, дарма што высокі (бо ў бацьку ўдаўся), усе тонкасці шлюбных зносін, але слова «залётчык» непрыемна рэзала слых, і насіць яго, як таўро, не хацелася.

У Андруся і Хрысціны праз нейкі час зноў «пайшлі дзеці», менавіта так казалі ў Кудзелічах. Тры дачкі, адна за адной: Ганна, Ульяна і Адэля, а потым нарадзіўся Іванка — меншанькі.

З Іванкам атрымалася цікавая гісторыя. Ён нарадзіўся амаль што ў адзін дзень з уласнай пляменніцай Ганторыяй. Бо за гэты час Васіль і ў войску тры гады адслужыў, і шлюбам пабраўся. Вось ягоная дачушка нарадзілася аднагасова з брацікам.

Мужыкі хвалілі Андруся: маўляў, во мужык, вайну прайшоў, сталінскія турмы, а які спрытны, пяцёра дзяцей ма́е, унукі пайшлі. Не было ніякіх насмешак, азываліся з павагай. На ўсе запытанні вяскоўцаў з нагоды вайны, лагеру і вясковага жыцця Андрусь стрымана адказваў, быццам апраўдваўся:

— Але ж вышыню я не ўзяў...

Што гэта за вышыня і які сэнс быў у словах Пятровіча, ніхто не ведаў. Але словы пра нейкую вышыню сталі з'яўляцца ў Андрусёвым лексіконе часцей, а можа, яны і раней былі, ды ніхто не надаваў таму ўвагі.

Калі нехта, звычайна гэта былі мужчыны нападпітку (бо цвярозым ніхто б не наважваўся ўвогуле ставіць якія-небудзь пытанні), назаляў Пятровічу — маўляў, пра вайну раскажы, то той звычайна стрымана адказваў:

— Некалі можа і раскажу, не цяпер, яшчэ не час.

— А пра няўзятую вышыню раскажаш?

— Раскажу.

— А пра...

— Раскажу...

Больш ніхто нічога новага ад яго не пачуў, і так было заўсёды.

Гады́ і цяжкая вясковая праца амаль ніяк не змянілі Пятровіча. Такі ж моцны, высокі, з шырачэзнымі плячыма і з усё той жа люлькай крочыў ён па вуліцы па нейкіх справах, вітаўся са стрэчнымі людзьмі, быў такі ж ветлівы і прыязны да кожнага, нягледзячы на ўзрост.

Праз нейкі час на ўскрайку вуліцы, бліжэй да лесу, паўстала новая дыхтоўная хата. Пастараўся Пятровіч, адбудаваў пяцісценак, бы палац панскі. Хутка сям'я Васіля справіла там уваходзіны і зажыла самастойным жыццём. Андрусь амаль кожны ранак альбо надвячоркам ішоў туды, каб адведаць, пазабаўляцца з унучкай ці дапамагчы сыну з нейкай справай. Звычайна дарога займала ў яго больш часу, бо з кожным вітаўся, а з нейкім і словамі патрэбна было перакінуцца, як жа без гэтага?

— Прывітанне, Пятровіч! Куды ідзеш, да сына? — віталіся людзі.

— Так, да Васі, — стрымана адказваў Андрусь, — да старэйшага.

— Вось хаціну ты адгрохаў, усім на зайздрасць, няхай жывуць маладыя. Залатыя рукі ў цябе, Пятровіч, — нахвальвалі тубыльцы.

— Няхай жывуць здаровыя. Але ж вышыня засталася, не ўзяў я вышыні, — быццам апраўдваўся Андрусь.

— Возьмеш яшчэ, авалодаеш сваёй вышынёй, — падбадзёрвалі Андруся вяскоўцы, хоць ніхто дакладна не ведаў, аб чым ідзе размова.

Так ішлі дні за днямі. Да паху табакі з Андрусёвай люлькі дадаўся кашаль з ягоных грудзей. Здагадацца, што па вуліцы ідзе менавіта Пятровіч, можна было ўжо не толькі адчуўшы пах махоркі, але і пачуўшы, як той кашляе.

Усё паспяваў Пятровіч, люба́я справа гарэла ў ягоных спрытных руках. Не ленаваўся Андрусь ніколі, а цяпер як след усведамляў, што дачок трэба замуж аддаць, кожнай пасаг даць ды кожнай бонду выгадаваць. Меншанькаму трэба таксама нешта прыстарацца, каб жыў не горш за іншых. Уставалі з Хрысцінай разам з сонейкам і спаць клаліся з зорамі. Шчыравалі на палетках, займаліся худобаю, гаспадарка была на зайздрасць усім. Жанчыны ставілі Пятровіча ў прыклад сваім не такім дбайным гаспадарам. Але тыя, пачуўшы некалі гэтыя словы ўласна ад Пятровіча, найчасцей адказвалі сваім гаспадыням: «Але ж вышыні ён не ўзяў».

І ніхто не ведаў, што меў на ўвазе Пятровіч, калі прамаўляў гэтыя словы, а наўпрост запытацца ніхто дагэтуль так і не адважыўся. Ніхто ніколі не кпіў з яго і ягонай вышыні. Хтось лічыў, што гэта наступствы вайны ды турмы, а хтосьці лічыў гэта нейкім асаблівым бзікам, бо ў кожнага свае прусакі ў галаве.

Іванка падрос, і Андрусь, як некалі Васіля, навучаў яго ўсякай вясковай справе. Радаваўся за сыночка, здольнага і разумнага, што гатовы спраўдзіць усе бацькавы надзеі і спадзяванні.

За ўвесь час Андрусь так і не абзавёўся сябрамі. Да вяскоўцаў ставіўся больш-менш роўна, але блізкіх стасункаў цураўся, бо жыццё навучыла быць асцярожным. У нечым мог параіцца з жонкаю ці з сынамі, але так, каб перад кімсьці расчыніць душу, такога не было зроду. Фронт, а потым лагеры сталі сапраўднай школай жыцця. Памылціца было недаравальна, надта ж цяжка выпраўляюцца такія памылкі, і ці ўвогуле выпраўляюцца. Таму Андрусь навучыўся быць сціплым і стрыманым у словах, у паводзінах, у стасунках.

Ніякіх успамінаў таксама ніколі не было. Хрысціна не ставіла перад мужам амаль ніякіх пытанняў, асабліва ў дачыненні да тых гадоў, што ён не па ўласнай волі адсутнічаў у Кудзелічах. Сыны таксама стараліся не вярэдзіць раны на татавым сэрцы. Але тое, што той сам час ад часу распавядаў ім, слухалі з задавальненнем, часцей моўчкі, быццам баючыся спудзіць трапяткую птушачку даверу, што бацька выкарміў на сваім зраненым сэрцы.

Іван, меншанькі з сям'і, меў магчымасць больш за іншых быць разам з таткам. Ён чуў ад бацькі такое, што не чулі ні Хрысціна, ні Васіль, ні, тым больш, сёстры. Дзіўна, але Андрусь ніколі не меў пачуцця злосці ці раздражнення, нават калі сын нешта перапытваў, не зразумеўшы з першага разу, альбо калі сам задаваў нейкае пытанне бацьку. Можа, ніхто б ніколі не наважыўся самастойна нешта запытацца ў Андруся, але толькі не Іванка. Больш за тое, іх размовы былі сапраўды сяброўскімі, нягледзячы на ўзрост, бо ў іх не было месца падману, недаверу ці яшчэ нечаму, што і разбурае такія адносіны.

— Тата, а калі б ты зараз сустрэў таго лейтэнанта? — Іван абвёў позіркам ладны стажок, з якога толькі што злез.

Праца завершана, на паўзімы сена будзе. Іван з бацькам згрэблі сенажаць, склалі сена ў стог. Цяпер можна і пагаманіць.

— Каб сустрэў... Не сустрэў жа за столькі гадоў, то ўжо і не сустрэну. Мабыць, генералам стаў, калі выжыў тады, у 45-м. Не тое, што я: ні богу свечка, ні чорту качарга.

— Тата, навошта ты так? Ты... ты — самы лепшы...

— А калі б сустрэў, то сказаў бы тое самае, што і тады. Сказаў бы, што жыццё чалавека — яно самае каштоўнае, што можа быць. Але хіба ён нешта зразумеў? Такім вышыня — любым коштам, ім медаль ці ордэн — галоўнае, і не важна, колькі люду паляжа... Я думаў пра таго лейтэнанта, асабліва там, у лагеры, напачатку. А потым неяк усё аддалілася, нават прозвішча наўрад ці ўзгадаю. Хізін, Хузін... Халера яго ведае. Мабыць, так усё спецыяльна зроблена, каб чалавек з глузду не з'ехаў у такіх умовах, забыцца на ўсё і жыць далей, прыстасоўвацца і выжываць. Вось і я, бач, сынку, выжыў, вярнуўся і працягваю жыць. А колькі згінула на этапах, у тых лагерах, сотні, тысячы... Мабыць, не здолелі нечага забыць, трымалі шмат у сваіх галовах, крыўда і адчай з'елі іх знутры, вось і не вытрывалі...

— Тата, а чаму людзі пра нейкую вышыню ўвесь час кажуць? — Іван няўпэўнена, а таму шэптам запытаўся ў бацькі, баючыся, што той зноў зачыніцца ў сваёй душэўнай схроны і перастане размаўляць з ім.

— Нічога такога. Прысталі да мне гэтыя словы, наўпрост, як бярозавы ліст у лазні. Натуральна, тую ж вышыню я не браў. Лейтэнант па-хуткаму здаў мяне ў асобы аддзел, а тым таксама працу трэба паказваць трэба. Яшчэ як стараюцца! Узялі мяне ў абарот па поўнай. Яшчэ пашанцавала, што не расстралялі на месцы. Дачакаўся, калі суд адбудзецца, а потым лягчэй стала. У лагеры больш шанцаў застацца жывым. Ведаеш, Іванка, там шмат добрых людзей. Ніколі не задумваўся над гэтым, але, сапраўды, не самыя горшыя людзі ў турмах, на этапах ды ў лагерах... Але пра што гэта я? А, ты, здаецца, пра вышыню пытаўся. Дык вось, сынку, у дадзеным выпадку гэта проста словы, а людзям абы толькі на язык трапіцца што такое — не адпусцяць. А калі разважаць шырэй, агулам, то ў кожнага чалавека ёсць свая нейкая вышыня, якую трэба ўзяць, пераадолець, прайсці... Разумееш, Іванка? Вось скончыў ты школу, паставіў ты сабе планку атрымаць добры атэстат — і атрымаў, значыцца, узяў сваю вышыню. Потым нешта іншае задумаеш. Увесь час патрэбна нешта браць, заваёўваць, без гэтага нельга...

— Тата, а твая вышыня якая, калі тую не далі ўзяць?

— Выжыць, вярнуцца. Зрабіць шчаслівымі бацькоў, бо не загінуў, не прапаў іх сын. Зрабіць шчаслівай жонку, што не дарма чакала столькі часу, што дачакалася, няхай сабе і без медалёў, але жывога, з рукамі і нагамі... Я мяркую, што гэта таксама вышыня. Увесь час нешта рабіць годнае, да рук галаву прыстасоўваць, каб сям'я твая была забяспечана ўсім неабходным — гэта таксама вышыня для вяскоўца. Хіба не?

— Так, тата, — пагадзіўся Іванка.

— Добра, сыну, сонца долу коціцца, запрагай Лысага.

Іван спрытнымі рухамі запрог коніка, і яны рушылі ў бок вёскі.

Андрусь дастаў люльку, набіў махоркай і зацягнуўся. Кашаль не даў атрымаць той асалоды, што ён атрымліваў раней, смакуючы кожную зацяжку.

Заканчэнне на стар. 3 »

# Няўзятая вышыня

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2

— Эх, бацька, канчай ты ўжо гэтую справу, — зрэагаваў на бацькаў кашаль Іван, — здароўя люлька твая пэўна ж табе не дабаўляе.

— Можа, і кіну курыць, сапраўды, ты праўду кажаш. Добра, хоць вы з Васілём не перанялі ад мне гэтай звычкі.

— Я марыў гэтаму навучыцца, а калі быў малы, то ўпотай ад цябе браў колькі разоў тваю люльку, — прызнаўся Іван.

— Вось, гарэза! І што, няўжо не спадабалася? — Андрусь зарагатаў.

— Не, тата, не спадабалася. Потым і да цыгарэт спрабаваў прылажыцца, але яны мне з дзяцінства ўсе аднолькава смярдзелі тваёй люлькай, — рассмяяўся і Іван. — А для цябе няхай будзе кінуць табаку чарговай тваёй вышынёй, якую трэба ўзяць.

— Ладна, пабачым. Но, Лысы! Прыбаў хуткасці, а то ноч застане на дарозе.

Андрусь шчоўкнуў ляйчынай па конскай спіне, і той пайшоў трушком.

Сын быў упэўнены, што ягоны бацька здольны на самыя моцныя ўчынкі. Перастаць курыць ці не, гэта так, драбяза, нявартая ўвагі. Дарогаю яны зноў размаўлялі, пра нешта раіліся, нешта планавалі.

Бацька быў шчаслівы разам з талковым і разумным сынам, сын быў таксама шчаслівы побач з такім надзейным і сапраўдным татам. Ніхто з іх не думаў пра шчасце, але гэта і было як раз тое імгненне жыцця, што завецца шчасцем.

— Назаўтра трэба сенажаць дзедаўскую скасіць за Чорным лесам, чуеш, Іванка? Нешта трывожна мне.

— Ты ж казаў, што пазней гэта зробім, — нерашуча прамовіў Іван.

— Не, трэба касіць, казалі людзі, што меліяратары рэчку спраўляць будуць і новае рэчышча пусцяць наўпрост праз нашы землі.

— Што ім, балота мала, што менавіта праз нашу сенажаць пройдуць?

— Паскуднікі, што з іх узяць, яны з шкуры вылузваюцца, каб толькі селяніну нашкодзіць. Як кажуць, і сам не гам, але і табе не дам. Дарма, што мой дзед з бацькам некалі выкупілі тую зямлю ў пана, нават купчая захавалася. Але што ты каму дакажаш? Хоць бы ў гэтым годзе сена адтуль паспець узяць, а потым гары яно га́рам. Нікуды не папрэш супраць іх.

— Добра, тата, тады на досвітку і паедзем, — пагадзіўся Іван, — а можа, Васіля папросім, каб усё адным махам выкасіць?

— Можна і з Васілём, хутчэй працу зробім. Прыедзем, то дагледзь жывёлу на ноч, а я пайду да яго і абмяркую з ім, што ды як.

— Добра, тата.

На досвітку Андрусь з сынамі быў на сенажаці. Чорны лес нечакана расступіўся, і перад імі паўстаў сакавіты мурог, што зіхацеў кроплямі расы ў промнях узыходзячага сонца. Руплівыя пчолы ўжо завіхаліся над кветкамі, а ў кустоўі ва ўсю моц спявалі птушкі.

— Вось, сыны, наша бацькаўшчына, — прамовіў Андрусь. — Шкада, што хутка гэта ўсё страцім, але не будзем марнаваць час. Вунь удалечыні экскаватар, ён, пэўна ж, нас чакаць доўга не будзе. Спадзяюся, што пакуль яны сюды прыйдуць, то мы паспеем усё зрабіць і прыбяромся адгэтуль, калі надвор'е будзе спрыяць. Тут сена коп з дваццаць будзе. А якое сена!

Эх, і спорылася праца ў бацькі з сынамі! Лю́бы пазайздросціць. Жыццёвы досвед сталага ды энергія і сіла маладых далі свой плён. Надвор'е спрыяла працаўнікам, і праз колькі дзён на сенажаці стаялі два прыгожыя стажкі духмянага сена. Андрусь звыкся да думкі, што сена апошняе і ён больш ніколі не вернецца на гэтую зямлю, больш яна нічым яму не аддзячыць за праліты пот…

Сонца толькі меркавала падняцца з-за далёкага лесу, а Андрусь з Іванкам ужо запрагалі коніка. Вілы, вяроўка і таўсматы рубель былі прыгатаваны звечара. Шлях не блізкі, але ў Андруся быў цвёрды намер: зрабіць два рэйсы. Экскаватар чакаць не будзе, хоць стажкі стаялі наўзбоч і не перашкаджалі нікому.

Напрыканцы Чорнага лесу, акурат там, дзе дарога павінна была выскачыць на палонь, пачуўся лязгат каўша. Экскаваторшчык рабіў сваю працу як след: план трэба было выканаць і нават перавыканаць, бо прэмія яшчэ ніколі не была залішняй.

— Іванка, а што за смурод? Нейкім дымам нясе адтуль, — бацька паказаў рукою ў бок сенажаці, — быццам ад пажару.

— Сапраўды, не ад рухавіка ж столькі дыму, — Іванка з трывогаю паглядзеў на бацьку, што ў імгненне стаў нейкім нервовым, балюча сцебануў пугаю па конскай спіне, каб той паскорыў крок ці нават пабег.

Праз колькі хвілін яны апынуліся на адкрытай прасторы. Сэрца старога Андруся зайшлося роспаччу і болем. У адчаі ён закрычаў:

— Іванка, сыночак, што ж яны такое робяць? Іванка, гэта не людзі, гэта звяры нейкія!

У хлопца адняло мову. На месцы бліжняга стажка ляжала купка шэрага попелу, з якім неахвотна гуляўся ветрык, ганяючы сівы дымок. Другі стог дагараў. Полымя ўскоквала ўгору, вінавата жэрла астаткі сена.

Андрусь спыніў каня і пабег наперад. Экскаватаршчык здалёк пабачыў людзей, што прыехалі, каб забраць сваё сена, спыніў працу і вылез з кабіны.

— Што ж ты робіш, гад? Ты ж абяцаў мне! Яны ж нікому не перашкаджалі, а калі б і так, ты ж ведаў, што я сёння прыеду і ўсё прыбяру адсюль.

— Андрэй Пятровіч…

Толькі той хацеў нешта патлумачыць, як трапны і моцны ўдар збіў яго з ног. Моцная яшчэ рука ў старога Андруся.



Фота НММ РБ

— Што ж ты нарабіў? — Андрусь з новымі сіламі рынуўся да збітага з ног і з панталыку трактарыста, але Іванка абхапіў бацьку ззаду за плечы.

— Татка, не трэба, спыніся. Татка, супакойся, перажывём неяк гэтую страту.

— Працы вашай шкада, поту пралітага, — Андрусь ледзьве стрымліваў слёзы крыўды, што падступілі ўжо зусім блізка.

— Андрэй Пятровіч, прабачце, не я гэта. Як я мог такое зрабіць? Ды і дамаўляліся мы з вамі, я нават паабяцаў, што спяшацца не надта буду, — экскаватаршчык сплюнуў крывёю. — А вы адразу па зубах…

— А хто? Хто гэта ўчыніў?

— Вунь ён, — экскаватаршчык паказаў на чалавека ў капелюшы, што завіхаўся каля машыны з брызентавым верхам. — Старшыня калгаса, дурань з дурня. Хіба вы не ведаеце, што за пачвара? Прывёз мяне сёння з раніцы і давай бясчынстваваць. Кажа: не яны сеялі тут, не яны палівалі, не ім і сена. Казаў, што не гаспадары вы тут, што зямля дзяржаўная. Пачвара, а не чалавек. Я прасіў, я ўкленчваў, усё дарма. Узяў і спаліў вашы стажкі. Прабачце, дзядзька Андрэй…

— Ну я яму зараз пакажу, хто гаспадар на зямлі, — Андрусь узяў з возу вілы і пайшоў да свайго крыўдзіцеля.

— Татка, не трэба, татка, пасадзяць, — Іванка дагнаў бацьку і ўчапіўся ў чаранок. — Татка, не трэба, прашу, не трэба…

Начальнік на ўсялякі выпадак адчыніў дзверцу машыны і стаяў побач. Андрусь з лямантам ішоў да яго, не гледзячы, што Іван перашкаджаў, трымаўся за вілы і прасіў бацьку спыніцца. Але таму быццам сілы прыбаўлялася з кожным крокам.

Старшыня ўзмакрэў увесь, хоць была толькі раніца летняга дня, спёка яшчэ і не думала распачынацца. Ён дастаў з кішэні вялізную насоўку і стаў выціраць спацелы твар.

— Адкажы мне, чалавеча, што ж гэта робіцца? — Андрусь спыніўся за некалькі крокаў. Іван на ўсялякі выпадак не адпускаў рукі, што ўчапілася ў тронак. — Ды я цябе, гад, на вілы зараз падыму!

— Асадзі назад, мужык. Мы сур'ёзную справу робім, дзяржаўнае дзела, а ты тут сена нарыхтоўваеш. Па якому праву?

— Гэта мая зямля, бацькаўшчына наша, у мяне купчая ёсць, — Андрусь няведама што зрабіў бы ў гэты час, калі б не моцныя рукі Іванкі.

— Можаш са сваёй купчаю ведаеш куды схадзіць, — на тлустым твары начальніка з'явілася ўсмешка пагарды і самазадавольнення. — А за тое, што пабіў чалавека і што з віламі на мяне накінуўся, адкажаш.

— Ты адкажаш, ты стажкі спаліў, я не дарую, будзе і на цябе ўправа — закрычаў Андрусь.

— У цябе сведкаў няма. Можа, маланка трапіла ў іх? Хто ведае, ад чаго яны згарэлі, — старшыня сеў у машыну і запусціў рухавік. — Бач ты, недабітак, зэк стары, як раз'юшыўся! Я цябе навучу ўладу паважаць, я ўсё пра цябе ведаю…

Старшыня з'ехаў. Андрусь павярнуўся да экскаватаршчыка:

— Прабач, Рыгор, што ўдарыў, што аблаяў цябе.

— Ладна, Пятровіч, забудзем, — экскаватаршчык няёмка ўсміхнуўся.

— Паехалі, Іванка, тут сапраўды нам больш няма чаго рабіць, — бацька дакрануўся да сынавага пляча.

Яны селі на воз і рушылі дадому.

Праз нейкі тыдзень Андруся павесткай выклікаў следчы. Андрусь вярнуўся з райцэнтра ўсхваляваны і нейкі ўзрушаны. Яшчэ з парога прамовіў: «Хрысціна, Іванка! А ведаеце, якое прозвішча ў следчага? Хузін. Можа, сын ці ўнук таго самага?».

А яшчэ праз тыдзень адбыўся суд і як вынік — агромністы штраф. Суддзя здзекліва паглядзеў на Андруся і запытаўся: «Ці вы згодны з рашэннем суда і ці не будзеце абскарджваць яго рашэнне?». Андрусь няспешна дастаў з кішэні люльку, патрымаў нейкі час у руках, паглядзеў на яе ўважліва, гэта неяк надало яму спакою і ўпэўненасці. Суддзя паўтарыў пытанне. «Не, не буду», — адказаў Андрусь. У голасе была цвёрдасць. Ён ведаў, што можна адчуваць які заўгодна страх, але ён павінен быць прыхаваны глыбока ўнутры. Ніякай боязі і ні перад кім не варта паказваць. Калі пакажаш, то прыйдзе слабасць, згіне моц…

— Тата, ты куды збіраешся? — Іванка пабачыў, што бацька старанна зрэзаў брытвачкай металічныя гузікі са старой ватоўкі і запхаў яе ў вялізны заплечнік, той самы, з якім вярнуўся некалі ў родную хату.

— Ды так, ёсць адна справа, я хутка вярнуся, матулі скажаш, што пасля апоўначы буду.

— Што ты задумаў? Тата, я з табой.

— Не, сын, гэта не твая, гэта мая вышыня, і я яе вазьму.

Андрусь выйшаў у двор. Іван чуў бацькаў кашаль, бо той быў прысеў на прызбе і распальваў люльку. Хоць кінуў гэтую звычку, але з люлькай расстацца не змог, так і насіў яе ў кішэні, быццам нейкі талісман ці абярэг. Іван чуў, як бразнулі веснічкі, і бацькавы крокі заціхлі ў цемры.

Ноччу Іван пачуў, як вярнуўся бацька. Андрусь не ўключаў святло, але ў бляску поўні, што заглядвала ў шыбы, Іван бачыў, як бацька кінуў пусты заплечнік на печ, распрануўся і лёг у ложак.

У другой палове ночы хата асвяцілася нейкім святлом, хоць месяц даўно схаваўся. Іван паглядзеў у акно. Вялізнае зарыва на паўнеба.

— Тата, мабыць, пажар недзе, ды які вялікі, мабыць, нешта на тым канцы вёскі гарыць. А можа, нешта на калгасным двары, там жа аборы калгасныя, сцірты?

Андрусь паглядзеў у акно, потым моўчкі накінуў на плечы пінжак паверх споднягa.

— Куды ты, тата? — Іванка не на жарт расхваляваўся.

— Выйду ў двор, зраблю зацяжак. Вось бяда! — Андрусь мацаў па кішэнях, але люлькі не знаходзіў. — Вось табе і вышыня, дурань стары, люльку недзе згубіў.

— Чаму не спіце, што здарылася? — падала голас Хрысціна. — Ой, што там, ці не пажар?

— Гарыць нешта, але далёка, ты не хвалюйся, — Іванка спрабаваў супакоіць матулю.

— Бяда, сынок, згубіў люльку. А калі там, а калі знойдуць? — шэптам прамовіў да сына Андрусь.

— Тата, я ўсё зразумеў яшчэ днём, калі пабачыў твае зборы. Татка, ты ўзяў сваю вышыню. Ты — лепшы. А люльку ты на прызбе пакінуў. Трымай!

Яны выйшлі ў двор, разам глядзелі на зарыва. Бацькава рука ляжала на плячы сына, сынава — на бацькавым. Ім было так добра быць разам, ніякія словы былі не патрэбныя.

А люльку Андрусь так і не распаліў.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (202), чэрвень 2023 года

# Васіль Быкаў. З лістоў сябрам

***22 чэрвеня — угодкі з дня смерці Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Уладзіміравіча БЫКАВА.***
***20 гадоў Беларусь жыве без Быкава.***
***Без яго спраўджаных мараў і надзей.***
***Без вуліц і праспектаў яго імя.***
***Без яго новых твораў, публічных выступаў, жывой прысутнасці.***
***Але Беларусь навечна застаецца з Быкавым — яго творчай спадчынай, узорнай грамадзянскай і мастакоўскай мужнасцю, патрыятычнымі запаветамі.***
***Беларусь жыве з Быкавым…***

Нілу ГІЛЕВІЧУ

*[9 кастрычніка 1963 г. Горадня.]*

Ніл, дарагі чалавеча!

Дзякуй табе за твае добрыя словы і за спачуванне. Толькі на фільм [«Третья ракета» («Беларусьфільм», 1963; аўтар сцэнарыя В. Быкаў, рэжысёр Р. Віктараў). — *С.Ш.*] гэты я ўжо даўно плюнуў, як кажуць. Не па-мойму ён зроблены, шмат што не так, дрэнна, слаба — чорт з ім, з фільмам. Гэта балаган, а не мастацтва — кіно. У літаратуры, нягледзячы на ўсё, усё больш твайго, аўтарскага, а кіно — дрэнь.

Сёння атрымаў ліст ад Юркі Вылчава [Вылчаў Георгі Дзімітраў (нар. у 1926) — балгарскі крытык, літаратуразнавец, перакладчык]. Ён між іншым просіць прыслаць яму выклік чытаць лекцыі на 1 м[еся]ц ад Мінскага або Гродзенскага ўніверсітэтаў, як ён піша. Я зусім не ўяўляю, як гэта зрабіць і ці магчыма гэта.

Краўчанка, фотакор наш, яшчэ не знайшоў таго фота, што ты прасіў. Калі знойдзе, я табе прышлю.

Вось, бадай і ўсё.

Бывай здароў і добрых вершаў табе.

З шанаваннем — Васіль.

Прывітанне Івану Н[авумен]ку.

Ну, а мы тут жывем ціха і мірна. Аляксей [Карпюк Аляксей Нічыпаравіч (1920—1992) — беларускі пісьменнік; сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СП БССР (1965—1970, 1978—1992)], вызвалены ад свае чыноўнічай службы, цяпер «обуреваем» тысячай ідэй самых розных, носіцца з імі па начальству, піша ў высокія інстанцыі. З Мінска выпісаў урэшце Броўку і брыгаду пісьменнікаў і цяпер бударажыць увесь горад сустрэчамі, вечарамі…

Ну дык яшчэ раз Вам вялікае дзякуй.

Бывайце здаровы, усяго Вам найлепшага.

Да сустрэчы!

Ваш — Васіль.

*15/IX—65 г.*

Максіму ТАНКУ

Першаму сакратару праўлення Саюза пісьменнікаў БССР

Паважаны Яўген Іванавіч!

На днях выдавецтва «Беларусь» без колькі-небудзь пераканаўчага абгрунтавання афіцыйна адмовіла мне ў выданні аповесці «Праклятая вышыня», раней запланавага на 1969 год.

На працягу апошніх трох гадоў гэта другая адмова запар. Такім чынам, фактычна я пастаўлены перад немагчымасцю выдавацца ў Беларусі на беларускай мове.

Я прашу Вас, сакратарыят, прэзідыум і секцыю прозы СП БССР выкарыстаць высокі аўтарытэт свае арганізацыі і аказаць мне магчымае садзеянне ў гэтым канфлікце з выдавецтвам «Беларусь».

З павагай Васіль Быкаў.

*26 ліпеня 1968 года.*

Янку БРЫЛЮ

Дарагі Іван Антонавіч!

Прыехаўшы з Каўказа, знайшоў Ваша пісьмо, якое мяне, вядома, дужа парадавала. Па-першае, таму, што гэта першы пісьмовы водгук, ну а, па-другое, таму, што ён ад чалавека і пісьменніка, які для мяне здаўна вельмі і вельмі шмат значыць. Так што — дзякуй вялікае і шчырае.

Сапраўды, мы вельмі чэрствыя адзін да аднаго, нават аднадумцы, у большасці падвержаны сальераўскаму пароку, і не кожны здольны пераступіць цераз сябе, каб парадавацца чужой удачы. У гэтым сэнсе «Мост» для мяне — радасць, у тым ліку і мастацкая (як для чытача), але найбольш за аўтара, які, даволі пакружыўшы, вяртаецца на «кругі свая», да сваёй, чалавечай, хоць і абскубанай, але праўды. Вось гэты аўтарскі кірунак і змусіў мяне падтрымаць аповесць, я сам напісаў рэцэнзію, і «ЛіМ», трохі яе папатрашыўшы, надрукаваў [Размова пра рэцэнзію на аповесць Івана Шамякіна «Мост»: Быкаў В. Улада праўды // Літаратура і мастацтва. 1965. 27 жн.].

З «Раман-газетай» я Вам спачуваю. Гэты Ільінкоў такі асцярожны тып, ён так доўга прынюхваецца, што ўрэшце атручвае ўсю радасць ад выдання 1 млн. тыражом. Больш палахлівых і больш асцярожных рэдактараў, чым у «Раман-газеце», я не сустракаў нідзе.

Валянціну АСКОЦКАМУ

*17/VII—69 г.*

Валя, дорогой дружище!

Спасибо тебе за теплые слова поддержки, они, разумеется, дороги мне. Но я не очень отчаиваюсь — уже привык за последние годы и другого не ждал. Правда, я все же не думал, что наш «ЛіМ» тут же схватится за это дерьмо из-под Мотяшова и перепечатает его на своих страницах [размова пра артыкул І. Мацяшова аб аповесці «Круглянскі мост»], как он это незамедлительно сделал, видимо, не найдя подходящего подонка в Минске. Ну и то бог с ним. Я всем прощаю.

Эти дни усиленно читал, в т. ч. и Б. Окуджавский роман [Акуджава Булат Шалвавіч (1924—1997) — расійскі паэт, празаік, бард. Размова, відаць, пра раман Б. Акуджавы «Бедный Авросимов» (Дружба народов. 1969. № 4—6).]. Неплохо сделанная вещь, стилистическая сторона просто изумляет. Правда, слишком все зашифровано, затумanено, плохо просматривается в сторону замысла. Но хороша вообще. Превосходен Камю («Падение» в № 5 «Нового мира») и один рассказ Искандера (там же), этот последний бесподобен. Прочитал и твою статью в последней «Литературке» [Оскоцкий В. Безбрежная романтика и берега романтизма // Литературная газета. 1969. 16 июля] — молодцом, правильно воюешь с этими псевдоромантиками и их апологетами. Но романтика сейчас нужна, она дает простор для идеализации действительности. К чему это приводит, мы уже знаем.

В Москве давно уже не был — нету дороги. Книжка в «М[олодой] Г[вардии]» засохла на корню — не издают. В остальном живу помаленьку. Алексей К[арпюк] собирается в Польшу. Я немножко поезжу в конце июля и буду сидеть дома.

Как ты? Куда и когда в отпуск? Как ребята и где Вася? Мой самый сердечный поклон Нине [Ніна Васільеўна Мінаева — жонка В. Аскоцкага].

На этом обнимаю —

твой Василь Б.

Грыгорыю БАКЛАНАВУ

*19 октября 1969 г.*

Дорогой Григорий!

Спасибо тебе огромное за дружеское слово поддержки, сказанное как нельзя вовремя. Только это и утешает, других утешений в нашей жизни осталось уже немного. Не скажу, что все эти крупнокалиберные залпы совсем уж подавили меня, но иногда вызывали недоуменный вопрос: отчего уж так уничтожающе — за что? Неужто так стала опасна правда на уровне дворника, даже не домоуправа? А здесь все это еще усугубляется провинцией и провинциализмом обывателей всех рангов. Но — потерпим. Терпели не такое.

В следующем месяце планирую быть в Москве, хотелось бы повидаться. А пока обнимаю тебя по-братски и с благодарностью.

Твой Василь.

Мой сердечный привет Элле и малышам, а также всем Лазаревым.

В. Б.

Мікалаю ПАШКЕВІЧУ

Шаноўны Мікалай Пашкевіч [Пашкевіч Мікалай Арсеньевіч (1936—1972) — беларускі педагог, літаратуразнавец, краязнавец]! Нам з Вамі яўна не пашэнціла ў гэтую вясну — так навалілася на мяне клопатуды і хвароба, што, як бачыце, у маі-чэрвені паездка не адбылася. Запіску Вашу знайшоў 28[-га] па прыездзе з Масквы, дзе даўгавата прабыў, а цяпер, вядома, няма сэнсу рушыць. Значыцца адкладзем на восень — верасень-кастрычнік, авось тады лепш пашанцуе.

Я гэтым самым прашу ў Вас і Вашых вучняў прабачэння, але ж не наўмысна падвёў Вас. Акалічнасці, нярэдка здараецца, усё яшчэ мацнейшыя за нас.

Усяго Вам найлепшага ўлетку, з вінаватасцю В. Быкаў.

*30/VI—70 г.*



Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. 29 траўня 2003 г. Фота Сяргея Шапрана

Міхасю ЛЫНЬКОВУ

*[Снежань 1970 г.]*

Дарагі Міхась Ціханавіч!

Будзьце здаровыя і шчаслівыя ў Новым, 1971 годзе.

Усё жыццё збіраюся сказаць Вам, як я люблю Вас ад самага дзяцінства. «Гой» была мая першая прачытаная ў жыцці кніжка, я тады быў зусім малы, а Вы — такі малады.

Са шчырасцю абнімаю Вас.

Ваш Васіль Быкаў.

Рыгору БАРАДУЛІНУ

Дарагі Рыгорка,

толькі што атрымаў твой ліст, пісаны 1 лістапада. Чакаў доўга і ўжо пачаў трывожыцца. А Ірына [Ірына Міхайлаўна — жонка В. Быкава.] толькі павялічвала тую трывогу, кажучы: штосьці ня тое! Чаго так доўга ня піша Рыгорка?

Прабач, даражэнькі, што я не пішу гэтак часта, хоць размаўляю з табой штодня і штоночы, як ня сплю. А тое бывае часта — з прычыны і без, хаця ўсё натуральна, калі мець на ўвазе ўзрост. Біблейскі! Канешне, тут іншае жыцьцё, але для іншых. Мы, былыя саўкі, такое праклятае племя, якому нідзе не наканавана шчасьця — ні дома, ні на людзях. Нашая метафізіка такая — з выразанай малекулай шчасьця, заместа якой пасаджана малекула манкурта, што ўсё і вызначыла. І, мабыць, не для аднаго пакалення. Наш тут тэрмін канчаецца, і па праўдзе я чакаю таго канца [У снежні 1999 г. скончыўся тэрмін знаходжання І. і В. Быкавых у Фінляндыі, дзе па запрашэнні Фінскага ПЭН-Цэнтру ў межах ПЭН-клубаўскай праграмы «Пісьменнік у выгнанні» яны жылі з чэрвеня 1998 г.]. Бо… Вельмі шмат у гэтым бо, тое не апісаць у лісьце. Але, як цяпер пагляджу, паўтараецца лёс маёй мамы (хіба ў іншых варунках): і там, і там нельга. У Бычках было добра, добры сын [Малодшы брат В. Быкава Мікалай Уладзіміравіч.], але там […]. У Ваўчы добрая дачка [Сястра В. Быкава Валянціна Уладзіміраўна, узяўшы шлюб, пераехала на сталае месца жыхарства ў вёску Ваўчо, таксама на Ушаччыне.], але благі зяць. Во мама бедная і тузалася — туды-сюды, пакуль не супакоілася назаўжды пад бычкоўскімі хвоямі. Ну але тое — невырашальная класічная праблема, толькі мама ня ведала таго. Адно — адчувала. Я во — ведаю, ды ад таго ведання не лягчэй. Як бы не цяжалей было.

Але во пішу. Апавяданьні пакуль ляжаць, а прыпавесьці пасылаю на «Свабоду», адтуль перадаюць у «Н[ашу] Н[іву]». Дужа сумняваюся ў каштоўнасьці ўсяго напісанага, часам да адчаю. Суцяшаю сябе хіба тым, што ўжо позна хістацца-вагацца, ёсьць тое, што ёсьць. Іншага ня будзе. Твой 21 верш [21-ы верш з цыкла «Лісты зь Менску».] адразу ж перадрукаваў на кампутары. Як і ўсе папярэднія, ён геніяльны! Твая паэзія стала такой, што вартая, каб гучаць зь неба. Зь нябесных сфэраў. Толькі як дамагчыся таго? Дзе тыя дзьверы на неба?

Рыгорка, браток, толькі будзь як-небудзь здаровы. Не хварэй. І няхай будуць здаровыя твае дзяўчаткі. А будуць здаровыя, будуць і шчасьлівыя, — скажу, трохі перайначваючы аднаго нашага вялікага.

Міхалішка [Ірына Міхайлаўна Быкава.] дужа ўсьцешана тваім лістом.

Абдымаю і — да сустрэчы!!

Сьціплая кветачка ад сябра [Унізе Быкавым намаляваная кветка.].

*24 ліст[апада 1]999 г.*
*Васіль*

Рыгору БАРАДУЛІНУ

*[3 красавіка 2000 г.]*

Мілыя і шаноўныя нашы Рыгорка, Валічка, Дамінічка [Родныя Р. Барадуліна: жонка Валянціна Міхайлаўна і ўнучка Дамініка.] — зь Вялікаднем вас віншуем, вельмі жадаем вам цёплай вясны, зялёнай травы і хлеба на стале. А й да хлеба таксама.

Шлём гэтае з Мілану, у якім апынуліся на 3 дні, заўтра едзем у Берлін [Запрошаныя Нямецкім ПЭН-цэнтрам, І. і В. Быкавы на пачатку лютага 2000 г. прыехалі ў Германію, дзе, вымушаныя час ад часу пераязджаць (Віперсдорф, Берлін, Франкфурт-на-Майне, зноў Віперсдорф), пражылі да снежня 2002 г.]. Тут добра. Але… Можаце здагадацца, што далей за але. Тут здалёку мы вас памятаем, шануем і любім як родных любых людзей, якіх навакол небагата. Можа, Бог дасьць пабачыцца цёплай вясёнкай [В. Быкаў прыязджаў у Беларусь у чэрвені 2001 г.].

Шчасьцейка вам. Васіль і Ірына

***Падрыхтоўка да друку і каментары Сяргея ШАПРАНА.***

# Празорца

## Паэма



Васіль МАКАРЭВІЧ
(1939—2017)

***Светлай памяці Васіля БЫКАВА***

**1**

*Не слухаў ён
Ні гімнаў, ні канцон.
А днямі без адхлання і прадухі,
Мо тысячу, не меней, верацён
Круціў перад сабой,
Як папрадуха.
І на здзіўленне
Шчыруноў-ткачоў
На іх ён вёў не залатую нітку,
А чэргі кулямётных станкачоў
І трасы залпаў кожнае
Зеніткі.
На кроснах,
Што з мярэжамі нітоў, —
У шынялі, на ветры парыжэлым,
Ткаў рупна бёрдам агнявых франтоў
Палотны перамог
І паражэнняў.
Хоць час кідаў
Каменні ды глыжы,
Заносіў сцежкі жвірам і снягамі,
А вёрсты ўсцяж, нібыта панажы,
Уверх-уніз хадзілі
Пад нагамі...
Ён добра знаў,
Што не адзін быў ткач.
Іх меліся брыгадныя арцелі.
Дзяругі ткаў ля партача партач,
Як за сцяной крамлёўскаю
Хацелі.
А ён не раз
Біў у сцяну плячом,
Пратэставаў наўмысна, а не здуру.
Бо не жадаў прыдворным стаць ткачом,
Прадажным трубачом
І трубадурам...
І не хацеў
І хвілі нават быць
У тым аркестры, што зрабілі зводным.
Ды ў барабан, як доўбняй, ззаўха біць
І ў ім лічыцца радавым
Ці ўзводным.
Ён пасміхаўся
З млына, што малоў
І так грымеў, нібыта ў апраметнай,
Не пад Масквой, а на Зямлі Малой
На кон стаўляўся лёс
Другой сусветнай.
Хоць гул баёў
Даўно ўжо ацішэў,
І мірна дні па ўсёй зямлі ступалі,
З яго акопаў дымных і траншэй
Вайны святая праўда
Праступала.*

**2**

*Былы
Артылерыст і бамбардзір,
Магчыма, у імя святой «Пагоні»
З вайны ён генеральскі зняў мундзір
І маршальскія ўслед састрыг
Пагоны.
Брахні і звад
Акружаны кальцом, —
Штабістаў, з іх капрызнай панароўкай,
Ён распранаў не толькі да кальсон, —
Куды глыбей штабной
Татуіроўкі...
Не мог зыбыць
Ён памяцю байца,
Што, адступіўшы аж да Сталінграда,
Апорай цвёрдай апасля Данца
Для штабнікоў былі
Заградатрады!
Як за глухой
Каменнаю сцяной,
Яны зацята, з пільнасцю сычынай,
Сядзелі ў пехацінцаў за спіной,
За кожным рухам у прыцэл
Сачылі...
Ў дзень Перамогі
З гуртам дружбакоў
Не мог трываць — пякла сляза сухая! —
Што першымі ў радах франтавікоў
Цераз паўвека чэшуць
Вертухаі...
Дарма генштаб
Рыкаў, бы люты дог,
Пад ногі злыдні валуны каціў, —
Ён радавым упарта сплачваў доўг,
Што цыркачы штабныя
Не сплацілі.
Каб па зямлі
На захад слаўся мост,
Хоць воіны ў баях геройскі палі,
Яны ў зямлі сталі навырост,
Нібы пяском засыпаныя
Палі.
Не знаўся
З бухгалтэрыяй двайной,
Дармо, што ўсюды ціснулі й давілі.
Вайна была дзеля яго вайной,
А не сцэнічным фарсам-
вадэвілем!
У сэрцы нёс
Ён не адзін пісяг
І не шукаў адхлання і ў зацішку.
З акопа бачыў франтавы абсяг,
Нібы з паднебнай каланчы
Ці вышкі.
Палеглых
Памінаў ён без куцці
І не глядзеў у нетры гараскопа.
Гарматку нёс з байцамі, то каціў
Цераз вайной разрытую Еўропу.*

**3**

*Ад века
Ні на крок не адставаў,
Хоць бавіўся падчас і за фуршэтам.
Ды вусача ў Крамлі ён даставаў
Не толькі мімаходзь
І рыкашэтам.
Не мог цярпець
Фальшывай дураты
І казак, што жывуць і па сягоння, —
Бы ўсе, як ёсць, грымотныя франты
Прайшлі праз кабінет
І стол ягоны.
Які з яго
Быў тактык і стратэг,
Калі шашой Калужскай ці Кашырскай
У першы дзень вайны з Крамля ён збег,
На дачы дзесьці у закут
Зашыўся?!
Ды ўсё ж яго
Паплечнікі знайшлі,
Па нейкіх там прыкметах апаролі,
Каб за сталом сядзеў зноў у Крамлі
На тым жа месцы, ды у новай
Ролі!
А сам пасля
Не горш, чым пракурор,
Прывыкшы да хвалы і да авацый,
Хоць першы у Крамлі быў панікёр,
У панікёрстве іншых
Вінаваціў...
Семінарыст,
Бязбожны абібок,
Дзеля якога не было закона,
Стаў для дзяржавы не бажок, а Бог.
Ну а партрэт напісаны —
Іконай!
Як чорт, хіцёр,
На слова быў васцёр.
Ды там, дзе ў бітву ён падчас улезе, —
Ў кацёл траплялі войскі, бы ў касцёр,
Ад танкаў заставаўся хлам
З жалезам.
Чуў ці не чуў,
Як дзесьці бор куваў.
Бо кожны міг, без сну і без адхлання,
Дзень Перамогі на стале каваў
Нібыта на грымотнай
Накавальні.
На ім ляжалі
З копаццю снягі
І рваны дол, што на марозе выстыў.
Як быццам грозная Курскае дугі
У стол зацята упіраўся
Выступ.
Ды хто забыў,
Калі наўзбоч застаў
Граніцу вораг неўспадзеў уздыбіў,
Ён, гэты стол, для невіноўных стаў
Бязлітаснаю шыбеліцай
І дыбай.
І глуха гуў,
Бы карабельны верф, —
За ім да рання седзячы нядарма,
Маглі ўзляцець да маршала уверх
І ўпасці да сяржанта
Камандармы.
З-пад кулака
Друз сыпаўся, то лом,
Палохаючы ўвесь генштаб дачыста.
Ах колькі іх было за тым сталом
Учынена, і здзекаў
І злачынства!
...Ах, колькі раз
Пасля пустых прамоў,
Каб ведзьмака душа пайшла у пяткі,
Ён, франтавік, наводкаю прамой
Гваздаў па тым стале
З саракапяткі.*

**4**

*Паўпраўды
Ненавідзеў ён эрзац.
Ці не таму цэкоўцы, нібы магі,
Падачкамі хацелі прывязаць
Да звздганай дзяржаўнай
Калымагі.
І ўпарта
Падступалі зноў і зноў, —
А мо на іхні лад залемантуе?
На грудзі ўзвезлі фуру ардэноў
І прышпілілі Зорку
Залатую!
А ён,
Нібы фарватэрам рачным,
Ішоў супроць цячэння, сілы воднай.
І дзеля ўлад слухмяным і ручным
І хвілі не зрабіўся
Аніводнай!
Калісьці сам,
Да грознае вайны,
Падаўся ў свет з нямога захалусця.
І больш, відаць, ад звадаў сатаны
Ён ненавідзеў здраду
І халуйства.
Хаця, шчырун,
З усімі ў смагу смаг
І мудраваў над скрыняю Пандоры,
Яго імя з цэкоўскіх хтосьці дзяляг
Пад звягаю крамлёўскай
Прышпандорыў.
Як быццам
Не прасіў — патрабаваў,
Каб за мяжу, без каліва вагання,
Франтавіка былога трыбунал
Турнуў, нібы злачынцу,
У выгнанне!..
Зямля і свет
Хадзілі хадуном,
Аж з неба пух ляцеў, нібы з пярыны.
І сам ён задыхаўся дзень за днём,
Нібы ў гарачым воблаку
Парыльні.
Ад духаты
Ішлі ў вачах кругі.
І, каб у ёй дарэшты не зварыцца,
Ён вырваўся ў фінляндскія снягі,
Нібыта з цеснай клеткі
Ці звярынца.
І ўдзячны,
Як брыльянту, ледзяшу
З сяброўкаю, зацятаю самотай,
Студзіў падоўгу сэрца і душу,
Зарыўшыся ў глыбокія
Сумёты.
Зіма ляжала
У лясной глушы,
І цішыня плыла з-за гарызонта.
А ён у сотнях вод змываў з душы
Абразу, звягу, горыч
І згрызоты.
Бы раскусіў
Ён мудрасці арэх,
Паверыўшы у франтавое брацтва.
Ды кроіў зноў
Пласты жыцця, бы торф,
Пад блізкія ускрыкі: «Віра», «Майна»!
Яго пазваў гасцінны Дзюсельдорф,
Каб жыць ён мог у Франкфурце-
На-Майне!
У новы век —
Інакшыя часы.
Сустрэчы з прымірэннем у кілішку,
Без вусцішнай нейтральнай паласы,
Франтавікоў і ворагаў
Калішніх.
Ён баразну
І там вярнуў ды гнаў.
Вайны прарэхі безупынна латаў.
А век з вайной і за мяжой дагнаў,
Паклаў яго ў бальнічную
Палату.*

**5**

*Шапнуў ён
Празе залатой: «Бывай!» —
Падрэзаны хваробай, што пілою.
Хоць там і не павіннасць адбываў, —
Дадому вырываўся,
Як з палону.
Маленькі,
А зласвесны, вузялок,
Якому й ведзьмакі не будуць рады,
Дармо што дзесь не глыбака залёг, —
Ды не далі яму хірургі
Рады...
Рыпелі дзесь,
Аж вылі палазы,
І песня ў лад прасіла, як і трэба:
— Аэрадромшчык, друг, перавязі
На бок другі Еўропы
Цераз неба!
І, як ішло
З аддаўненых часін,
З адненькім пёркам і, амаль улегцы,
Вяртаўся ён дамоў, як верны сын,
Каб у зямлю бацькоў
Навекі легчы!
Не дзеля шыку
Вольны час знайшоў,
І, як падчас былых гадоў застойных,
Калішніх зноў сабраў таварышоў,
Наладзіў з добрай гаманой
Застолле.
Як быццам рысу
Пад жыццём падвёў,
Згадаўшы нейкі там наказ прабабчын.
А што з вяртаннем дружбакоў падвёў, —
Няхай пасля нябожчыку
Прабачаць!
Ззяў летні дзень,
То зноў плыла імгла.
Каціўся быт па вызнанай калейцы, —
Сачылі пільна здані з-за вугла,
Каб часам ён не выкінуў
Каленца.
Хто ведаў,
Што уздрыгнуць і віжы,
Зайздроснікі прыціхнуць пад брылямі,
Калі памчаць па кальцавой шашы
Яго на «хуткай» прама
Ў Бараўляны.
Адкрыў павекі —
Дактары наўкруг!
І ў міг апошні і жыцця і сконy
Пабачыў ён, як скача цераз луг
Табун чырванагрывых
Пудкіх коней.*

**6**

*Пасля густых
Захлёбістых залеў,
Калі раскошна травіне і красцы, —
Нябожчыкаў такіх бы ў маўзалей,
А не ў пясок, і ў дамавіне,
Класці!
Хоць не сказаў
І ў тастаменце ён
Пра пахаванне, не зрабіў і коскі, —
Яго прыняў жалобны пантэон
У вечны спрат, каля шашы
Маскоўскай...
Мяняючы
Не меней сотні поз,
Падобны да калішніх балаголаў,
На край магілы камень сам дапоўз
І звесіў па-над ёю нізка
Голаў.
Дзень зіхаціць,
Шапоткі дождж імжыць,
Ці гром рване меч бліскавіцы з похваў, —
Глядзіце — тут, пад каменем, ляжыць
Не проста прах, а болей,
Чым эпоха!*

***2005, 2013 гг.***
***Друкуецца ў скароце.***

# Васіль Быкаў: «Сёння сумленны чалавек можа толькі развесці рукамі…»



Васіль Быкаў. Фота Яўгена Коктыша

## «Наша грамадства апалітычнае»

*— Васіль Уладзіміравіч, неаднаразова ў вас гучала думка наконт таго, што наш народ яшчэ недастаткова палітызаваны. Гучыць «у піку» агульнажурналісцкаму штампу, што, маўляў, наша грамадства надзвычай спалітызаванае і стамілася ад гэтага. У якім сэнсе, па-вашаму, грамадства яшчэ недапалітызаванае, і якой, адпаведна, палітычнасці яму бракуе?*

— Сучасны стан нашага беларускага грамадства дае падставы гаварыць пра яго як пра грамадства апалітычнае. Калі б яно было ў дастатковай меры палітызаванае і ўсведамляла ўласную ролю ў гісторыі Беларусі, дык у нас не мелі б месца такія прыкрыя з'явы, якіх не бывае ў нармальна палітызаваным грамадстве. А менавіта: значныя палітычныя падзеі расцэньваліся б адэкватна і не блыталіся б з другараднымі (параўнайце рэакцыю насельніцтва на абвяшчэнне суверэнітэту рэспублікі і на аднаразовае павышэнне кошту заводскага харчавання), не было б негатыўных адносін да свае нацыянальнае мовы і культуры. Палітызаванае грамадства не паставіла б паўтысячы аднолькавых помнікаў чужому правадыру і без дыскусій зразумела б, чаму цяпер іх трэба прыбраць. Урэшце, палітызаваныя грамадзяне інакш бы паставіліся да выбараў у парламент… «А што ад таго (ад выбараў, рэферэндумаў і да т. п.) — пабольшае каўбасы?» — вось вынік тае палітызацыі наадварот, якая і цяпер дае самыя шырокія магчымасці для маніпуляцыі народнаю воляю ўсім, хто наверсе, — ад камуністаў да дэмакратаў, якія, зрэшты, шырокія масы проста не навучыліся адрозніваць між сабой. Не, такое грамадства — класічны прыклад апалітычнасці.

## Пра дэмакратыю і псіхалогію

*— Апошнім часам, здаецца, наша грамадства, не паспеўшы зрабіцца праўдзіва палітызаваным, ужо пазбаўляецца ілюзій наконт магчымасці хуткага ўсталявання справядлівай і гуманнай улады… Ці не былі перабольшанымі нашыя спадзяванні на хуткае, імгненнае ўсталяванне дэмакратычнага ладу? Відаць, надыходзіць пераломны момант, калі трэба прымірыцца з тым, што яшчэ не хутка ўсталюецца дасканалая ўладавая структура?*

— Правільна. Тая эйфарыя была, канечне, фальшывай, неабгрунтаванай. Справа ў тым, што камуністычны лад і камуністычная па сутнасці псіхалогія панавалі ў нас ледзь не стагоддзе. У яе атмасферы выхаваўся пэўны менталітэт грамадства. Ліквідаваць, зжыць гэты менталітэт за некалькі гадоў немагчыма. Для таго павінна адбыцца змена пакаленняў.

Мы бачым, што пабудова дэмакратычнага грамадства, апроч іншага, моцна ўпіраецца ў псіхалогію. Нават нашы дэмакраты (несумненна, лепшыя сярод нас людзі, і людзі разумныя), якія хочуць быць іменна дэмакратамі, але… яны такімі быць не могуць. Яны суб'ектыўна не могуць быць такімі, хоць бы таму, што цяжка зжыць не толькі камуністычную ментальнасць, але і тое імперскае, шавіністычнае мысленне, якое ёй спадарожнічае… Каб пазбавіцца ўсяго гэтага, мабыць, патрэбен час.

*— Баюся, Васіль Уладзіміравіч, што каб пераадолець спадчыну сацыялізму, — тут чалавек, магчыма, не здольны нешта выправіць; тут, відаць, без другога прышэсця не абысціся…*

— Можа, і так. На гэты конт я цёмны чалавек. Я не ведаю, не магу нічога прадбачыць. Як не можа прадбачыць ніхто, хоць людзі заўсёды вызначалі пэўны накірунак. Аднак усе тыя «вызначальнікі» вельмі хутка банкрутавалі. Сёння сумленны чалавек можа толькі развесці рукамі, а калі нехта паказвае, куды «трэба» ісці, то гэта альбо авантурыст, каторы робіць тое ў карысьлівых мэтах, альбо проста недалёкія людзі, каторым здаецца, што яны нешта ведаюць.

На самай справе ўсё гэта вельмі цьмяна, таму што, па-першае, чалавек сам сябе не ведае, а па-другое, ён змяніўся… Здаецца, Пазаліні ці Антаніёні, нехта з іх, зняў фільм на антычную тэму, нешта з жыцця Нерона. Пасля ў рэжысёра спыталі, што самае цяжкае: аднавіць дэкарацыі тагачаснага жыцця ці рэканструяваць псіхалогію антычнага чалавека. Ён адказаў, што самае цяжкае — аднавіць псіхалогію, таму што псіхалогія змянілівая. У мастацтве гэта ўвогуле амаль немагчыма.

Элементарны прыклад, каторы прыходзіць на памяць: Сенека. Яму імператар выказаў сваё незадавальненне. Што зрабіў Сенека? Пайшоў змагацца супраць імператара? Не, ён пайшоў дамоў і выпіў цыкуту — ад таго, бачыце, што імператар яго разлюбіў…

*— Вы ўсё-такі дазваляеце сабе разважаць над такімі рэчамі, як другое прышэсце?*

— Пра гэта я нічога не думаў, я кажу, што цёмны ў гэтым сэнсе чалавек…

## Пра адбудову нацыянальных дзяржаў

*— Даўно чуваць развагі, што, маўляў, галоўная бяда Беларусі — у тым, што ў яе няма агульнанацыянальнага лідэра. Вы верыце ў такі сродак вырашэння нашых грамадскіх праблем?*

— Яшчэ кажуць — у палітыцы трэба прафесіяналы. Баюся, што не прафесіяналы тут патрэбны. У многіх выпадках трэба якраз не прафесіяналы. Трэба проста чалавек з боку. Вядомы даўні выпадак: калі Форд будаваў сваю вытворчую імперыю, узнікла нейкая тэхнічная праблема, і яго спецыялісты не маглі яе вырашыць. Тады ён запрасіў інжынера, які ніколі не меў справы з аўтамабілямі, але лічыўся нядрэнным спецыялістам. І ён хутка вырашыў тую праблему. Чаму? Таму што яго вырашэнне было свабодным ад усялякіх стэрэатыпаў… Так можа быць і ў палітыцы. Трэба найперш чалавек, каторы валодаў бы здаровым сэнсам. Вось калі ўзяць, дапусцім, Масарыка, ён мне вельмі даспадобы.

Мне здаецца, у нас мала вывучаюць вопыт міжваенных дзяржаў, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Аўстрыі… Тады, пасля Першай сусветнай вайны, у лідэры прыйшлі вельмі сімпатычныя людзі — і ў Чэхаславакіі, і ў Польшчы. Хай генерал, маршал — Пілсудскі, — але як жа ён адбудоўваў Польшчу ў тых умовах? Яны не былі «прафесіяналамі ад палітыкі», але, тым не менш, паспяхова будавалі свае нацыянальныя дзяржавы. Чэхі памятаюць народнасць, прастату Масарыка. Пры ім міністры ездзілі на працу на трамваі — не таму, што не маглі пакарыстацца персанальным аўтамабілем, а таму, што гэта было непрыстойна. І небагатыя яны былі людзі. Яны служылі найперш нацыі, таму так сябе паводзілі. А нашыя каму служаць?..

*— Сёння мы кажам пра расслаенне нацыі; то ці можа быць у такіх умовах універсальнай каштоўнасцю «здаровы сэнс»?*

— «Здаровы сэнс» сёння нацыяй страчаны, і гэта прыкра… Нават у палякаў, якія, па сутнасці, распачалі змаганне з камунізмам у сацыялістычным лагеры — прыканцы 70-х, — няма агульнанацыянальнага лідэра. Былыя камуністы цягнуць за сабой ладную частку грамадства… Таму што дыферэнцыяцыя грамадства адбылася.

У цэнтральнаеўрапейскіх дзяржавах былі, канечне, свае супярэчнасці, але раней іх нацыі былі нечым з'яднаныя больш, чым цяпер, скажам, тая ж Польшча. Вот калі туды прыйшлі камуністы, дык, натуральна, яны перш за ўсё выкарысталі ўсе сродкі, каб нацыю раскалоць на кавалкі. Таму што толькі ў такім стане яны здольныя ўтрымліваць уладу. І яны за пяцьдзясят гадоў гэта зрабілі. А да камуністаў нацыя была з'яднаная. Нават немцы, акупаваўшы Польшчу, не змаглі (ці не схацелі, як часам кажуць) стварыць там масавую калабарацыю і ўгоднае самакіраўніцтва. Гэта ж пра многае сведчыць. Праўда, там былі касцёл, рэлігія, што аб'ядноўвалі нацыю. А ў нас нават і рэлігія не можа аб'яднаць, таму што ва ўмовах двухканфесійнасці якое можа быць аб'яднанне? Ды яшчэ драбленне па сацыяльным стане, нацыянальнай прынадлежнасці, іншае…

## Пра камунізм і ідэалагічны таталітарызм

*— Камунізм захапіў Беларусь суцэльна…*

— Ён, камунізм, увесь час імкнуўся трымаць народ у нейкім маналітным лагеры, не зважаючы на нацыянальнасці. Было адно вялікае дзяленне на камуністаў і беспартыйных (як у Афрыцы — на белых і чорных). У той час як камуністы валодалі ўсімі правамі і магчымасцямі, беспартыйныя не валодалі і іх палавінай… Ідэалагічны таталітарызм выхоўваўся ці не з дзіцячага садка: акцябраты, піянеры, камсамольцы… Гэта былі, па сутнасці, сапраўдныя дзяржаўныя секты, з іх унутранай ідэалогіяй і дысцыплінай. Тое было ў інтарэсах дзяржавы і партыйнага кіраўніцтва…

*— Але зноў-такі, за апошнія гады «галоснасці» столькі напісана пра рэпрэсіі, ГУЛАГ, што дзіву даешся, як грамадства — «самае чытэльнае» — не баіцца паўтору таго, што было пры савецкай уладзе — вынікі апошніх выбараў сведчаць пра тое… Чаму ж людзі нічога не баяцца?*

— Яны нічога не баяцца, таму што грамадства па-ранейшаму застаецца неінфармаваным. Як вядома, на пачатку перабудовы гучала шмат патрабаванняў (з боку расійскіх дэмакратаў), каб кампартыя пакаялася ў злачынствах, адмовілася ад свайго злачыннага мінулага. Гэтага не было зроблена. Усе хрушчоўскія выкрываннi сталінізму былі частковымі, бо пералічваліся толькі імёны рэпрэсаваных маршалаў і кіраўнікоў, а пра народ — маўчалі. Таму ў масавай свядомасці рэпрэсіі так і засталіся рэпрэсіямі кіраўніцтва супраць кіраўніцтва, а не ўлады супраць народа…

Колькі Алесь Адамовіч заклікаў «дадумваць да канца»! А ў нас гэта ніяк не дадумана. Канцы і пачаткі нашай бяды дзесьці ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а можа, і яшчэ раней… І прычына нашай галоты не ў «разбурэнні сувязей паміж прадпрыемствамі», а ў тым, што ў 1917 годзе адбылася жахлівая рэвалюцыя, і Расея, разам з нацыянальнымі ўскрайкамі, улучна з Беларуссю, пайшла не ў тым кірунку. Мы пайшлі абсалютна ў тупіковую галіну і ўперліся ўрэшце ў тупік. І цяпер як вярнуцца назад? Гістарычны час гэта выключае. Як зноў збочыць у агульнае русла зямной цывілізацыі — не ведае ніхто… Вот таму гэта ўсё мы і перажываем. І павінны перажыць.

## Пра прыватную ўласнасць і нацыяналізм, або чаму рускія не могуць зразумець украінцаў

Самае жахлівае — разбурэнне найбольш агульнага, боскага прынцыпу прыватнай уласнасці. З яго ўсё пачынаецца. Калі прыватную ўласнасць панішчылі, панішчылася ўсё… Бо чалавек ад жывёлы адрозніваецца тым, што здольны нечым валодаць і распараджацца. Нават леў, сабака «мецяць» сваю тэрыторыю, свае ўладанні… Прырода толькі тады дасць нейкі плён, калі яна будзе камусьці належыць. А ў нас праца людзей і ўласнасць не толькі абяздушаны, але і незаконным чынам прысвоены, можна сказаць, антылюдзьмі, нечалавекамі.

Пры сацыялізме ўласнасцю народа распараджалася Палітбюро, купка людзей. З гэтага пачалася ўсе няшчасці… І пагэтаму, каб вярнуцца ў ранейшае становішча, уласнасць трэба раздаць канкрэтным людзям. Толькі як гэта зрабіць па справядлівасці? Ёсць жа ў матэматыцы задачы, якія не маюць рашэння. Баюся, што такая ж праблема зараз у нас з уласнасцю: яна не мае свайго справядлівага вырашэння — вот у чым нявыкрутка…

*— Дзеля гэтага павінны распрацоўвацца рэформы…*

— Рэформы павінны быць… Каму будзе належыць уласнасць — заходнім банкам ці расейскім канцэрнам… Па сутнасці, і тое і другое кепска. Лепш, калі яна будзе належаць нам. Але лічыцца, што апошняе — «нацыяналізм»…

Нацыяналізм, канечне, пастараліся скампраметаваць, найперш нарабіў жаху нямецкі нацызм… Але правільна гаворыць амерыканскі філосаф і палітолаг Ёсіхіра Фрэнсіс Фукуяма, гэты апошні «адвакат нацыяналізму», як яго называюць на Захадзе: само паняцце нацыяналізму заключае ў сабе вельмі шмат, ад самага высакароднага да самага ганебнага. І трэба канкрэтна меркаваць пра кожны канкрэтны нацыяналізм.

Фукуяма кажа пра нацыяналізм рэспублік былога СССР як абавязковую перадумову крушэння таталітарызму. Г. зн., што толькі нацыяналізм можа эфектыўна змагацца з расейскім рэжымам. Далей ён піша, што нацыяналізм і заходні лібералізм могуць выдатна ўжывацца, дапаўняючы і ажыўляючы адзін аднаго.

А ў нашай масавай свядомасці нацыяналізм — гэта страшна, ім палохаюць. Прычым не толькі камуністы, але і некаторыя дэмакраты, ім мроіцца Югаславія, Каўказ, Сярэдняя Азія, і яны гэта адпрэчваюць. У тым ліку і расейскія дэмакраты.

Вот чаму рускія не могуць зразумець украінцаў…

***Юрась ЗАЛОСКА***

***Чэрвень 1995 г.***

**Рыгор БАРАДУЛІН (1935—2014):**

## Васілю БЫКАВУ

*Дзень народзін тваіх,*
*Васіль,*
*Як Вялічка крывіцкага роду.*
*Сыйдзе ўсё ж*
*Бальшавіцкая цьвіль,*
*І адчуем сьвятую лагоду.*
*Дасмыляць, як карчы,*
*Стукачы,*
*Стане цёмна прадажніцкім*
*совам.*
*Вечніну абжывуць крывічы,*
*Душы сьвенцячы*
*Быкаўскім словам!*

***19.VI.96, Менск***

**Генадзь БУРАЎКІН (1936—2014):**

«Для мяне Васіль Быкаў па-ранейшаму жывы. Ён часта прыходзіць да мяне, хоць і ў сне, засяроджаны і ўсмешлівы, маўклівы і самотны. Я і сёння раз-пораз азіраюся на яго ў нашым сумятлівым і жорсткім жыцці, і з часам ён не аддаляецца, а наадварот, набліжаецца да мяне, пазбаўляючыся выпадковай бытавой драбязы і ўсё больш набываючы мудрасці і мужнасці, відавочна робячыся ўзорам і настаўнікам.

Што ж галоўнае бачыцца мне ў жыцці і творчасці Быкава? Перш за ўсё — ягоны яркі талент і самаахвярнае служэнне праўдзе. Менавіта гэтыя яго якасці вымушалі ў савецкі час самых высокіх чыноўнікаў аддаваць яму, нязручнаму і не любімаму, афіцыйныя знакі дзяржаўнай увагі. Менавіта яны ў нашы дні прымушаюць яшчэ больш прымітыўных і нахабных палітычных дзялкоў мірыцца з тым, што выходзяць, хай і зусім не часта, ягоныя кнігі, здымаюцца, хай і не ў Мінску, мастацкія фільмы па ягоных аповесцях…

І яшчэ адну істотную рысу характару і паводзінаў Васіля Быкава хачу абавязкова адзначыць: надзвычайную чалавечую годнасць. Ён падкрэслена спакойна і цярпліва прымаў і незаслужаную аглабельную крытыку сваіх твораў, і бляск шчодрых узнагарод, якімі крамлёўскія кіраўнікі ў апошнія гады свайго валадарання нібы спрабавалі адкупіцца перад ім за шматгадовую несправядлівасць і адкрыты пераслед.

Ох, як не хапае быкаўскай годнасці многім сённяшнім літаратарам і палітыкам!

І ўжо зусім асабістае. Васіль быў рэдкім па шчырасці і вернасці сябрам. І ў хвіліны радасці, і ў хвіліны адчаю ён ніколі не забываў патэлефанаваць ці напісаць, і спагада і дабрыня ягоныя былі такімі натуральнымі і простымі, што самі сабою супакойвалі душу…

Так што Васіль Быкаў для мяне — жывы, неабходны, абавязковы і для гісторыі роднай Беларусі, і для яе цяперашняга часу, і для будучыні. І трэба часцей успамінаць яго, азірацца на яго, вучыцца ў яго».

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ:**

«Васіль Быкаў падкрэсліваў, што лёс кожнай кнігі залежыць ад таго, колькі ў ёй закладзена ад праўды народнага жыцця. Яго творчасць мае выразна беларускія нацыянальныя карані, аблічча, душу, і разам з тым сваёй духоўнай апоўненасцю, маральным максімалізмам і актыўным гуманізмам яна ўліваецца ў плынь агульначалавечай літаратуры і культуры…

Уплыў творчасці Васіля Уладзіміравіча на сучасную літаратуру значны. Галоўным застаюцца ключавыя словы, якія вельмі былі важныя для Васіля Уладзіміравіча, — гэта праўда, існіна і выбар. Гэта і ёсць знакавыя, галоўныя, ключавыя словы для таго, каб адкрыць творчасць Быкава і зразумець яго як чалавека і як пісьменніка.

Якраз у гады таталітарызму, пра які мы сёння забываем, з аднаго боку, а з другога — упадаем у яго новую эру, і, я б сказаў, эру цынізму і хлусні, Быкаў паказаў праблемы, з якіх складаецца цэлая эпоха…

Для мяне ён са сваёй такой сумнай усмешкай застаецца ідэалам чалавека, які добра ведае цану жыцця і смерці і таму адстойвае гэтае жыццё з усімі яго бедамі, слязьмі, радасцю».



Генадзь Бураўкін і Васіль Быкаў. 1980-я гг.

**Данута БІЧЭЛЬ:**

«Чытаць Быкава было цяжка, але гэта было дзякуючы ягонаму магічнаму стылю. Ён зацягваў чытача сваім залішне спакойным апавяданнем, нагляданнем збоку, што нельга было адарвацца ад тэкста. Прыходзіла нешта новае, створанае ім, і прыходзіў канец нармальнаму жыццю — ні есці, ні піць, ні працаваць, пакуль не прачытаеш. І потым ходзіш у нейкім чадзе, пакуль не вылезеш з гэтага. Сам аўтар як бы заставаўся непрысутным. Было толькі тое, што ён прыпаднёс. А прыпадносіў тое, што сам перажыў, перабачыў, абдумаў, акуратна запакаваў у аб'ём не вялікі і не малы…

Я думаю, што ў быкаўскім палоне пэўны адрэзак часу пабывала нямала людзей. Нейкім чынам ён выхоўваў народ, фармаваў людскія роты і батальёны. Ён быў у канкрэтным сваім часе, але быў як бы па-за часам, быў па-за нацыяй, але ён быў беларускім…

І, канечне, ён наперадзе. Ён — першы. І хай ён будзе».

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:**

«У спадчыне Васіля Быкава няма, бадай, нічога, што сёння не было б важным для нас, але найбольш важнае ў ёй — сам Васіль Быкаў. Важная не толькі мастацкая моц ягоных твораў, але і ягоная асабістая, чалавечая вартасць. Важная быкаўская беларускасць, якая складаецца з мужнасці, прынцыповасці, непахіснасці, што ўсё разам складае характар, які ні ў чым не супадае з тым вобразам рахманага «бульбаша», якім малюе беларуса сённяшняя антыбеларуская ўлада, бо менавіта гэтакі беларус патрэбны ёй: на рахманых ваду возяць.

У цяперашняй цынічнай, хамскай, пазбаўленай маралі рэчаіснасці найважныя тыя быкаўскія творы, у якіх паўстае праблема маральнага выбару, а гэта зноў жа — амаль увесь Быкаў. Гэта і ягоны Сотнікаў з аднайменнай аповесці, і Сушчэня з аповесці «У тумане», які па сумленні жыць болей не мог, а без сумлення — не захацеў. І калі нязломны Сотнікаў у нечым літаратурны, прыдуманы, дык «рахманы» Сушчэня — характар цалкам рэальны. Такі, які ён ёсць у беларуса. Да ўсяго, Сотнікава знішчаюць ворагі, а Сушчэню — праз правакацыю ворагаў — свае. Знішчэнне беларусамі беларусаў, знішчэнне саміх сябе — гэта хіба не найважнае для нас? Гэта хіба не тое, што робіцца й сёння?..

Няхай нясцерпная, але праўда — гэта ўрэшце і ёсць тое, што было самым важным для Быкава і застаецца самым важным для нас».

**Юрась ЗАЛОСКА:**

«У нашай культуры сёння запатрабавана самае істотнае, што ёсць у мастацкім свеце Васіля Быкава, тое, на чым гэты свет заснаваны, — гэта метафізіка і псіхалогія чалавечага выбару. Драма выбару, ад якога няма куды ўцячы. Тут Быкаў выступае як пісьменнік-чалавеказнаўца, мастак і псіхолаг гэтай драмы, якой ёсць выбар — выбар маральны, каштоўнасны, чалавечы. Выбар, які звязаны з ахвярай. Праблематыка выбару і ахвяры яскрава відаць ужо ў першай вядомай нам са школы аповесці Быкава «Жураўліны крык». Далей яна атрымлівае распрацоўку ў працяглай сцікме твораў: «Мёртвым не баліць», «Трэцяя ракета», «Круглянскі мост», «Сотнікаў», «Дажыць да світання», «Пайсці і не вярнуцца» і іншых… Істотнае і важнае сёння быкаўскае гуманістычнае пасланне беларусам, усім чытачам яго твораў.

Духоўнае ўздзеянне быкаўскіх твораў сёння перакрочвае межы літаратуры і набліжаецца да іншых сфераў духоўнага жыцця: кіно, псіхатэрапіі, рэлігіі…

Гаючая функцыя быкаўскага радка можа быць выкарыстана як духоўны рэсурс нашымі праведнікамі. Напрыклад, я асабіста ў Вялікі Пост пабудаваў два казанні ў праваслаўнай царкве на творах Быкава. Першае — на сюжэце рамана «Кар'ер», дзе істотны матыў пакаяння галоўнага героя; другое — на матэрыяле апавядання «Круты бераг ракі», дзе істотны матыў святога чакання і надзеі на сустрэчу.

Згаданая аповесць «Сотнікаў», на маё ўспрыманне, — гэта ўвогуле Евангелле ад Быкава, Евангелле разгорнутае, бо тут ёсць не проста Юда-Рыбак, але Юда, паказаны знутры, вось што важна. І паказана непазбежнасць пятлі для Юды».




Злева направа – Юры Хадыка, Зора Кіпель, Васіль Быкаў, Вітаўт Кіпель, Дзмітрый Бугаёў, Адам Мальдзіс, Уладзімір Конан. Дом творчасці пісьменнікаў. Іслач, 1995 г.

## СЛОВЫ ПРА БЫКАВА

**Адам ГЛОБУС**

### Хадакі

Песіміст Васіль Быкаў, гледзячы і апісваючы сучасных беларусаў, назваў іх пахаджанамі. Каб Васіль Уладзіміравіч дажыў да нашых дзён і паглядзеў шэсць сезонаў серыяльнай эпапеі «Гульні тронаў», дык мог бы і пераназваць сваіх пахаджан у хадакоў. Дарэчы, у кіно яны не проста хадакі, а белыя хадакі, амаль што беларускія хадакі.

Быкаў не дажыў і не пабачыў белых хадакоў, а мы дажылі, той-сёй з нас іх пабачыў і паспеў палюбіць. Цяпер на сакраментальнае пытанне беларускага прарока Янкі Купалы «А хто там ідзе?» можна дадаць у адказ: «Хадакі! Белыя хадакі! Беларускія хадакі! Беларусы…».

### Скураны пінжак

Адразу пасля пахавання Васіля Быкава ўзнялася хваля ўхваленняў. Як яго толькі не ўзносілі, з кім толькі не параўноўвалі, чаго толькі не напланавалі для ўшанавання ягонай памяці… Не пераказаць, не перагледзець і не перачытаць. Запомнілася, што адзін крытык параўнаў Васіля Быкава з Уільямам Шэкспірам. Пэўна, той крытык не ведаў, што Быкаў не любіў тэатр. Ён быў далёкі ад тэатральнага асяродку.

Васіль Быкаў належаў да пакалення вялікіх аматараў кіно. Таму і проза ў яго наскрозь кінематаграфічная, яна лёгка перакладаецца на мову кінасцэнарыяў. Экранізацыі аповесцяў «Сотнікаў» і «Альпійская балада», — можна сказаць, узоры савецкага кіно пра Другую сусветную вайну.

Васіль Быкаў і апранаўся як савецкі кінарэжысёр. Насіў чорны скураны пінжак. Такі пінжак лічыўся модным і прэстыжным рэччу напрыканцы 70-ых. Калі Быкаў з'яўляўся на сцэне ў бліскуча-чорным пінжаку, у абліччы пісьменніка было нешта вайсковае і нават камісарскае.

### Зоркі

Бачу свайго былога аднакурсніка скульптара Батвінёнка ў дарагім касцюме і пытаюся: «Нашто ты надзеў касцюм? Веселле ў каго ці яшчэ якая ўрачыстасць?» — «Проста прывыкаю да новага касцюма. Раней, як ты правільна заўважыў, я касцюмы не насіў. Цяпер падумаў… Запросяць мяне ў які высокі кабінет, а ў мяне няма ў чым туды ісці. Пайшоў і купіў даражэзны, скажу табе, касцюмчык. Цяпер во разношваю і выгульваю. І як толькі атрымаю запрашэнне, дык адразу — раз, і ў касцюм!» — «Ты ж мастак, можаш і ў швэдрыку на прыём пайсці…» — «Несалідна ў швэдрыку…».

Пагаварылі мы і пайшлі ў розныя бакі. Я пра дарагі касцюм Сашы Батвінёнка і забыўся быў, ажно пакуль не пабачыў ягоны праект помніка Васілю Быкаву. На праекце бронзавы Быкаў схіліўся над вялізнай чырвонай каменнай зоркай.

Быкаў усё сваё жыццё хадзіў з рознымі зоркамі і пад рознымі зоркамі. Хадзіў з зоркай на пілотцы, хадзіў з зоркамі на пагонах, хадзіў з залатой зоркай на грудзях. Адпаведна, і на помніку ён атрымаў чарговую зорку.

Выглядала на тое, што Батвінёнак свой праект зацвердзіць, бо ў яго быў дарагі касцюм, каб схадзіць на прыём і вырашыць усе дробныя і вялікія праблемы.

Пакуль не склалася, але будзем спадзявацца, што праекту Батвінёнка зоркі паспрыяюць. Калі зоркі не паспрыяюць праекту Батвінёнка, дык няхай яны спрыяюць яшчэ лепшаму помніку, які заслужыў Васіль Уладзіміравіч.

# Асцярога слова



Марыя БАРАВІК

### Успамін не хоча выгараць

*Зара. І зноў сунічная пара.*
*Бярэцца памяць міг той паўтараць.*
*У ім быў колер долу, як зара;*
*такі ўспамін не хоча выгараць.*
*Былое ёсць. Яно глядзіць з мяне...*
*...І сёння ты, як сонейка ў акне,*
*у ззянні сэрцам, дорыш колер мне,*
*каб летуценнасць не знікала ў сне.*
*Бо незнікальнасць адмаўляе меру.*
*Бяру натхненне — верш пісаць і верыць...*

***

*Аблога нечуваная жыцця:*
*танюткага, як валасок, чуцця*
*і голасу, шырокага трывогай.*
*Дык незнікальнасць туліцца да Бога,*
*у чалавеку,*
*у якім ёсць сіла —*
*быць абярэгам*
*у яднанні мілым.*

***

*Захмаранасць стаіць —*
*быць з бліскавіцай мелася.*
*Нябёсы распранацца не гатовы.*
*У кронах — глуш, яшчэ не расшумелася...*
*Як і на вуснах — асцярога слова.*
*На думку ціснe час, які заныў.*
*Здавалася — далёка ад вайны...*

***

*Прачнулася перад зарою.*
*Задумалася пра герояў...*
*І зварухнуўся сум гарою:*
*ці быць —*
*ў раскаянні —*
*Герою?*

***

*...І слоў такіх не падабраць...*
*Нібыта ўспыхнуць і гараць,*
*як і жыццё (было й няма).*
*Але — віна... Але — вайна.*
*Ці, мо, жахлівая памылка,*
*што б'ецца амбіцыйнай жылкай?*

**6 чэрвеня 2022 г.**

***

*Яны не ўведалі гожага:*
*звыш простага, найпрыгожага:*
*зусім не ўведалі сутнасці —*
*Запаведзі магутнасці*
*(у супраціўнасць грэху).*
*Бо не шкарлупка арэха —*
*жыццё, у якім расцём*
*духам і пачуццём.*
*Пра Запаведзі не чулі.*
*Пра тое, што: «Не забі!..»;*
*дык сэрцы іх не расчуліць*
*мая расшыфроўка: «Любі!..».*
*У іх гістарычных строфах —*
*змаганне за катастрофы...*

**19 чэрвеня 2022 г.**



Фота decorel.by

# Соты сузор'яў



Ілона СЦЯЦКО

***

*Іду па краіне,*
*дзе пахаў няма.*
*Тут цёпла, ёсць фарбы,*
*і крочу я гнутка.*
*І гэта ламае настрой*
*і прысутнасць.*
*Ламае і нішчыць —*
*ды толькі дарма.*
*Усё адчуваю:*
*і радасць і жахі,*
*усё, як звычайна —*
*згубіліся пахі.*
*Зрабіўся свет цвёрдым —*
*само навакольле.*
*Тут бедна і плоска,*
*але мне спакойна.*

***

*Пад гукі паланэза на змярканні*
*язміна водар абдымае змрок.*
*Мелодыя, паветра і каханне*
*перапляліся ў зоркавы цурок.*

*Духмяная салодкая пяшчота*
*ліецца з неба проста скрозь Зямлю.*
*Напоўнены амаль сузор'яў соты*
*мядовым сном, а соты — з крышталю.*

# Прага да вечнасці



Ірына ГРУМАНДЗЬ

### Дзісенскае

*Там, дзе Дзісенка ўпадае ў Дзвіну, —*
*Гулкай памяці звод.*
*У роснае раніцы патану*
*У жніўеньскі хрэсны ход.*

*І Багародзіца павядзе*
*Радасцю вечных сіл —*
*То Адзігітрыя па вадзе*
*Плыла пад небасхіл.*

*Богапрысутнасць стрэчы стрэч,*
*Богаз'яўленне... Шлях...*
*Веры людской сакральны меч*
*Смерці разбурыць страх.*

### Чайкі

*А чайкі праз хмары*
*ляцяць на святло —*
*Не ведаць прыродзе*
*марнасць кватэрнага свету.*
*Крычаць пра дажджы й навальніцу*
*У вольнае неба —*
*азёрнага краю жытло.*
*У птушак таксама ёсць прага*
*да вечнасці,*
*І птушкі таксама ўмеюць маліцца.*

*Знясілены крык —*
*Нанізвае боль ды адчай*
*На струны душы чалавечай*
*у хмарах.*
*У нябёсным святле патанае свяча*
*Крыклівым агнём*
*расстрачаных мараў.*

*А чайкі і ноччу*
*ляцяць на святло*
*Да вечнага люстра спакою...*
*Пранізлівы крык —*
*гэта крык пра жыццё*
*Людскога кватэрнага дому.*

***

*Не думайце пра людзей добра.*
*Думайце пра людзей*
*як пра людзей...*

# Краіна святла



Марыя НОВІКАВА

***

*Між хмараў зімовых, халодных,*
*Насупленых шызых хмар,*
*Амаль што неверагодна*
*Пакажацца сонца твар.*

*Так ноч тваёй адзіноты*
*Любові пракрэсліць знічка.*
*І гэтым адчайным палётам*
*спакой твой звычайны знішчыць.*

*І, нават, калі у мары*
*Спагады не папрасіць —*
*Не зможаш забыць: за хмарай*
*Хаваецца неба сінь.*

***

*Нашы дарогі росныя —*
*Стужкамі. Стужкамі...*
*Мары ў неба — проста так —*
*Птушкамі. Птушкамі...*

*Хіба пяшчота мерыцца*
*Метрамі? Метрамі...*
*Толькі чаму на сэрцы так*
*Ветрана? Ветрана...*

*Нашы дарогі розныя —*
*Стрэлкамі гострымі.*
*Цэляць у сэрца проста так —*
*Розумам...*
*Розумам.*

***

*Ад гарызонта рванецца вецер,*
*Як сто раз'юшаных кабыліц.*
*І дрэвы роспачна ўскінуць вецце,*
*І ў жаху схіляцца да зямлі.*

*Счарнее неба ў адну хвіліну,*
*І сонца дыск захіне сабой.*
*І хмара хмары пальчатку кіне*
*І гулка выкліча на двубой.*

*Літаўра грому раптоўна ўдарыць,*
*І з неба хлыне "дзявяты вал".*
*І бліскавіца прарэжа хмару*
*Над хваляй збожжа, нібы кінжал.*

*Калі ж аслабнуць у ветра крылы*
*І грозны сціішыцца гул літаўр,*
*Праб'ецца промень — адновіць сілы,*
*І сонца выйдзе з вязніцы хмар.*

***

*За краем неба, за сіняй хмарай*
*Пагасне сонца апошні блік.*
*І калыханню струны гітарнай*
*Адкажа рэхам начны цягнік.*

*Сплятуцца песняў жывыя ніткі*
*На скрыжаванні лясных сцяжын.*
*І раптам стане надзвычай блізкім,*
*Хто быў учора амаль чужым.*

*А ноч нябачна наладзіць кросны,*
*Каб ткаць туманны над рэчкай пас.*
*І дзесьці ў высі, над шапкай соснаў,*
*Збяруцца зоркі паслухаць нас.*

*Над краем неба, як водблеск мары,*
*Успыхне сонца світальны блік.*
*І зноў бяссоннай струне гітарнай*
*Адкажа рэхам першы цягнік.*

***

*Сонца знізіць штодзённы маршрут.*
*Будзе ў небе гусей пераклічка.*
*Шустры вецер свавольнай рукой*
*Прыгажосць па лістах пералічыць.*

*Будзе рэха свабодна гуляць*
*У лістоце асінавай гулкай.*
*Каля брамы ўспаміну стаяць*
*Будзе зноўку знаёмая думка...*

*І, як дзеці наўкола стала,*
*Што ім Восень лістамі накрые,*
*Пад апошнія промні цяпла*
*Выйдуць грэцца апенькі малыя.*

*І ў прыцішаным сонным бары*
*Пад апенькавае розгалоссе*
*Будзе мне пра цябе гаварыць*
*Лістападная шчодрая восень.*

***

*Нешта сёння мне сонца замала.*
*Не стае мне чамусьці цяпла.*
*Проста восень раптоўна настала.*
*У жыццё маё Восень прыйшла.*

*Дні — у вырай, як клін жураўліны...*
*Сёння вецер дрыготкай рукой*
*Развітальна калыша галіны,*
*Навяваючы мне неспакой.*

*І ніяк не магу я сагрэцца*
*У журботнай хвіліне такой.*
*Смутак мне затуманьвае сэрца,*
*Як слата над асенняй ракой.*

*Аддаляюцца летнія крокі,*
*Застаюцца ў Краіне Святла.*
*...Сеюць сяйва сівыя аблокі —*
*Гэта Восень нарэшце прыйшла.*

# Недзе квітнеючы сад

## Райская нізка



Уладзімір МАРОЗ

### Пераступіць парог

*У райскі сад адчыненыя дзверы —*
*Такое можа здарыцца ў жыцці.*
*Сумнеў трымае, толькі ты дай веры:*
*Да брамы любасці сваёй дайсці.*

*Пераступіць парог і апынуцца*
*У іншсвеце, дзе квітнее сад.*
*Ісці наперад і не азірнуцца,*
*Даўмець ураз — шляхоў няма назад.*

*Усё ў мінулым свеце засталося —*
*Зачараванне пер態аймае дых.*
*І пакрысе сціхае адгалоссе*
*Падбітых жарсцю золкіх дзён зямных.*

*Душа наўсцяж купаецца ў спакоі,*
*Табе спявае альбу іншасвет.*
*Увачавідкі стануць явай мроі,*
*Калі з табой любові запавет.*

### Іншакрай

*Я цябе павяду за сабой —*
*Уступай у пракладзены след.*
*Неспатольнай кахання парой*
*Я цябе прывяду ў іншасвет.*

*Сам не быў там ніколі ў жыцці,*
*Але ведаў, што ёсць такі край.*
*Доўга-доўга ісці і знайсці,*
*Адшукаць зацярушаны рай.*

*Дзе суладдзя пястуецца стан,*
*Дзе ні звадак няма, ні бяды,*
*Дзе вястуе спакой акіян*
*І не маюць улады гады.*

*Мы з табою наўсцяж тут адны —*
*Не раўнуючы, Ева й Адам.*
*Стануць яваю светлыя сны —*
*Я табе ўсю пяшчоту аддам.*

### Райскі сад

*Да майго прыхініся пляча*
*Усцяж, каб не рваць цішыні.*
*Адвіхрыў да стомы адчай —*
*Не сурочыць больш нашыя дні.*

*Ненасытнай юдолі наўзбоч*
*Пацякуць яны светлай ракой.*
*Да кахання дарогі не збоч,*
*Каб мінуць развітанні з табой.*

*Будзе лашчыцца ў квецені сад,*
*Атуляць нашы райскія дні.*
*Наўздагон залаты зоркапад —*
*Ты пяшчоты сувой разгарні.*

*Ахінемся ад свету суздром,*
*Хай паўторыцца радасць шматкроць —*
*І спазнанне зачэпіць крылом,*
*І каханнем спатоліцца плоць.*

### Лёгкасць быцця

*Не пазбыцца наўсцяж пачуцця,*
*Што ўцякаю ад гэтага свету.*
*Невыносную лёгкасць быцця*
*Падсвядома трымаю за мэту.*

*Бо душою нясцерпна хацеў*
*Дасягнуць да спатольнай нірваны.*
*Цуд здараецца ўраз, неспадзеў,*
*Хоць даўно ўжо чакана-жаданы.*

*Над зямлёю іскрыста лячу*
*Недасяжна зямное юдолі.*



Фота photos.com

*Але птушкаю быць не хачу —*
*Чалавекам хачу быць на волі.*

*Не вярнуся ў аблуду назад —*
*Стануць блізкімі дальнія далі,*
*Дзе сустрэне мяне райскі сад,*
*Дзе запісаны шчасця скрыжалі.*

*Убіраю настой адкрыцця —*
*Сёння, значыць, планіда такая.*
*Невыносная лёгкасць быцця*
*У абдымкі мяне забірае.*

### Акіянская шчодрасць

*На сцяне фотаздымкаў радочак —*
*Акіян, акіян, акіян.*
*Так і хочацца кінуцца ў прочкі,*
*Мець уцёкаў акрэслены план.*

*Каб вярнуцца на бераг жаданы,*
*Дзе спявае шторанку прыбой.*
*З неабдымнасцю там паяднаны.*
*Вольна кліча яна за сабой...*

*Пазбываешся жаднай юдолі,*
*Забываеш на жарсці жыцця.*
*Заспявае душа на прыволлі,*
*Вырве з немачы і забыцця.*

*Акіян, насамрэч я — удзячны*
*За спрыянне і шчодрасць твае.*
*Тут бязмежнасць як складнік найзначны*
*Дапамогу на вольнасць дае.*

### Ружовы фламінга

*Свой райскі кут акрэслю назаўсёды —*
*Эдэм зямны паўстане наяву.*
*Праз ліхалецці, звады, недароды*
*Жыве мой сад, і значыць, я жыву.*

*І момант той надарыцца шчаслівы,*
*Калі зліецца ўсё на добры лад.*
*Ружовыя фламінга, птушкі-дзівы,*
*З нябёсаў спусцяцца ў мой райскі сад.*

*Ён расквітнее і падхопіць танец,*
*Які ўладкуюць птушкі на вадзе.*
*Шчыруй, як выпадзе спакусны шанец —*
*Ты з яблыкам насустрач мне ідзеш.*

*Ляцім з табою разам з імі ў скокі —*
*Віхурны баль адкіне з небыцця.*
*І недзе там, дзе плаваюць аблокі,*
*Акдрыецца высокі сэнс жыцця.*

### Прыгожае жыццё

*У шкле іскрыцца з белай пенай піва,*
*Віно ў бакале — радасць у вачах.*
*Сын, бацька й маці — здымак як надзіва,*
*Дзе рэй вядуць усмешкі на губах.*

*Здароўя самі мы сабе жадаем,*
*Прыязных дзён і сонечных сустрэч.*
*Яны здараюцца за дальнім небакраем,*
*Калі туды трапляеш насамрэч.*

*Сядзім за столікам,*
*лаўлю сябе на слове —*
*Як той казаў, салодкі маем кайф.*
*І гэта на тутэйшай дзіўнай мове*
*Усмак завецца коратка: «Good life».*

*Да раю сёння брама прыадкрыта —*
*Адкінь сумненні і да шчасця крок.*
*Цябе сустрэне ласкай «Dolce vita»*
*Усіх мітрэнгаў роспачных наўзбоч.*

*Так у жыцці здараецца абранне,*
*Прыходзіць іншакраю адкрыццё.*
*У зачараваным дзівосным стане*
*Трымае нас «Прыгожае жыццё».*

### Зорная ноч

*Божа мой, як не хочацца спаць,*
*Залатога пазбыцца імгнення!*
*Да суладдзя прасцелена гаць —*
*Ты нарэшце дайшоў да збавення.*

*Пад шатром старых яблынь сядзіш*
*За сталом, жоўта-круглым, як поўня.*
*Пі нагбом за адхланне барыш,*
*За спакой, чым душа твая поўна.*

*Будзь удзячны крыжу на мяжы,*
*Што твой хутар ашчадна старожыць.*
*Адзвінелі згрызот капяжы —*
*Назаўсёды забудзь раздарожжы.*

*Растварыся ў напятай цішы,*
*З недасяжнымі зоркамі зліся,*
*І ў бязважкасці закалышы*
*Гэты стан свой, засведчаны ў высях.*

### Першы баравік

*Ад маленства свайго*
*неспадзеў дачакаешся вестак,*
*Згадак час непаўторных*
*чакана-салодка праб'е.*
*Той парой залатой лес не лес яшчэ,*
*проста падлесак,*
*Але сам ты малы —*
*ён высокім здаецца табе.*

*Ён адразу за хутарам,*
*кліча цябе далучыцца,*
*Толькі выйдзі за браму —*
*наўсцяж забярэ іншасвет.*
*Ты не маеш сумневу —*
*жыве там, жыве таямніца,*
*Цар лясны перадасць яе хлопчыку*
*як запавет.*

*Ціха крочыш, пакуль не баішся*
*нідзе заблудзіцца, —*
*І адкрыецца раптам пад хвойкай*
*табе баравік!*
*Першы, першы і твой! —*
*як знаходкай цяпер наталіцца?*
*Тут да месца дзіцячы адкрыты*
*і радасны крык.*

*Потым будзе ў жыцці і грыбоў,*
*і лясоў найбагата,*
*Толькі смак першародны не вернецца,*
*як не было.*
*Болем памяць пацвеліць*
*твая незваротная страта —*
*Меў ты райскі свой сад,*
*але ўсё адышло, адплыло.*

### Васількі

*Калі раптам ахопіць памкненне*
*душой спаталіцца —*
*Ты кіруй, брат, туды,*
*дзе адвечнасці подых-нязвод.*
*Там у дальніх краях,*
*дзе красуе калоссем пшаніца,*
*Васількі між сцяблінаў*
*вядуць сіні рэй-карагод.*

*Што за кветкі такія,*
*адкуль яны тут узяліся?*
*Без жаданае веры не знойдзеш*
*уцямны адказ.*
*І жыццё, і паэзія злучна*
*асвечаны ў высях,*
*А далей дамалёўвай прыгожа*
*краіну-абраз.*

*Побач з полем рассцелены луг*
*дываном-мураваю —*
*Мякка кроч басаног*
*па спакуснай іскрыстай расе.*
*І адкрыецца раптам*
*дзівоснае перад табою —*
*Скокі німфаў як мроя мужчын*
*аб цнатлівай красе.*

*Вось нарэшце патрапіў, дапяў,*
*як належыць, у прочкі,*
*Дзе, як вокам акінуць,*
*вядомы нябачаны край.*
*На галовах дзяўчатак*
*плывуць васілёчкаў вяночкі,*
*Для цябе аднаго адшуканы*
*адкрыецца рай.*

*А за лугам рака з нетаропкай*
*лагоднай вадою,*
*Дзе жаданы спакой*
*у суладдзі са светам жыве.*
*Валадарыць спатоля,*
*спазнаная толькі табою —*
*Кінь дзявочы вянок на ваду,*
*хай да мора плыве.*

### Перадсон

*Закалышуць мой сон цвыркуны*
*Наўздагон дабрадатнае ночы.*
*Напяюць каляровыя сны*
*Ад рэальнасці шэрай наўзбоччы.*

*Неспадзеў — незвычайны куток,*
*Дзе няма ні бяды, ні адчаю,*
*Дзе вясёлкі іскрыстай вытак,*
*Што вядзе, каб дастаць небакраю.*

*Браму любасці час адчыняць*
*І ступіць за парог без прынукі.*
*Ты адзін, і наўкол цішыня,*
*Толькі водгуллем горнія гукі.*

*У суладдзі душа падпяе,*
*Унутры стане светла-шчасліва.*
*Так збываюцца мроі твае,*
*Так здараецца дзіўнае дзіва.*

*Іншасвет забірае ў палон —*
*Так і жыў бы ў чароўнай краіне!*
*Тут сапраўдны падступіцца сон,*
*І аб райскай не ўспомніш карціне.*

### Беспярэпынная квецень

*Досыць мітрэнгаў і звад,*
*Каб не зняверыцца ў свеце.*
*Недзе квітнеючы сад*
*Ёсць на самотнай планеце.*

*Мрою спатольна крані —*
*Збыўна падступіць адхланне.*
*Недзе пяюць салаўі,*
*Славяць вясну і каханне.*

*З часам адчайны двубой*
*Не прывядзе да знямогі.*
*Недзе цалуе прыбой*
*Ласкаю збітыя ногі.*

*Шчэрыцца воўчая сыць —*
*Як чалавекам застацца?*
*Недзе вясёлка гарыць,*
*Кліча на неба падняцца.*

*Вер — і часіна праб'е,*
*Сыйдзецца ўсё ў іншасвеце.*
*Недзе чакае цябе*
*Беспярэпынная квецень.*

***11 чэрвеня Уладзімір Вікенцьевіч МАРОЗ адзначае сваё 70-годдзе.***
***Радасці і «беспярэпыннай квецені» нашаму аўтару!***

# Загадка Лоркі

## Да 125-гадовага юбілею паэта

Сяргей ШАРГУНОЎ

Выдатны іспанскі паэт і драматург, які непаўторным чынам увасобіў у багатай на жанры лірыцы сваё захапленне музыкай, жывапісам і андалузскім фальклорам, мастак-графік **Федэрыка Гарсія Лорка** нарадзіўся ў 1898 годзе ў гарадку Фуэнтэ-Вакерас у іспанскай правінцыі вострава Гранада.

У школе ўражлівы хлопчык не вельмі пасняхова вучыўся. Лорка вывучаў права, філасофію і літаратуру ва ўніверсітэце Гранады. Шмат падарожнічаў па краіне.



Федэрыка Гарсія Лорка

У 1918-м выходзіць яго першы паэтычны зборнік «Уражанні і краявіды» (*Impresiones y paisajes*), які прынёс аўтару калі не камерцыйны поспех, дык хаця б вядомасць.




У 1919-м Гарсія Лорка прыязджае ў Мадрыд, робіцца заўважнай фігурай сярод мастакоў-авангардыстаў. У яго выходзяць новыя паэтычныя зборнікі. У вершах паэт, па яго ўласных словах, «хацеў злучыць цыганскую міфалогію з усёй сённяшняй будзённасцю».

Праз год Гарсія Лорка едзе ў Нью-Ёрк, у выніку чаго ў хуткім часе з'явяцца кніга вершаў «Паэт у Нью-Ёрку» (1931), п'есы «Публіка» і «Калі пройдзе пяць гадоў» (1931).

Перад пачаткам грамадзянскай вайны Гарсія Лорка з'язджае з Мадрыда ў Гранаду, хаця было відавочна, што там яго чакае сур'ёзная небяспека: на поўдні Іспаніі былі асабліва моцнымі пазіцыі правых. 18 жніўня 1936-га нацыяналісты арыштоўваюць Гарсія Лорку, і на наступны дзень паэта забіваюць…

Да смерці дыктатара Франка — 1975 год — кнігі Федэрыка Гарсія Лоркі былі забароненыя ў Іспаніі…

…У юбілейны год нараджэння хочацца ўспомніць яго смерць.

Лорку забілі за палітыку.

Арыштавалі за палітыку…

Асабліва яскрава асоба раскрываецца ў напружанай вітальнасці. Прага да ўлады, да ўражанняў выводзіць на найкароткую прамую да смерці. А абапал дарогі вырастаюць прароцкія вершы аб блізкай развязцы. Прага да фарбаў заканчваецца перамогай аднаго адзінага колеру: асляпляльна-белага, у якім адначасова выбліск зачацця і стрэлу, што сцірае ранейшае жыццё.




Помнік паэту ў Мадрыдзе

Зразумела, расстрэльваюць паэтаў па недарэчнай выпадковасці. Якая б ні была ступень іхняга ўдзелу ў змаганні, законы вайны на іх не распаўсюджваюцца. «Загінуў салдат» — і можна дадаць: нявольнік гонару або нявольнік каскі.

А паэт — нявольнік фарбы. Які эгацэнтрычна перабірае раскошную палітру, прагне апошняга мазка, імя якому — абсалютнае самаадрачэнне.



Сальвадор Далі і Гарсія Лорка, Барселона, 1925 г.

Чамусьці мала хто разглядае важны феномен: палітызаванасць эстэтаў. Чытаючы Лорку, успамінаеш то яго ідэалагічнага антыпода Гамсуна, то субрата па «левізне» Бабеля (праз чатыры гады пасля Лоркі яго пакараюць смерцю ва ўсхваленай абодвума Савецкай Расіі). Іх родніць адзін і той жа прыём: сталае накладанне слоў з рознай семантыкай, спалучэнне несумяшчальнага, выраб палкіх стылістычных кактэйляў накшталт «безнадзейнага ветразя» або «смяхоткай кабуры»…

Не заўсёды гучны аксюмаран, часцей меладычная метанімія, але вось псіхадэліка нязменная. Праз гэты стыль (зрушэнне і разбурэнне межаў штодзённага) і прыадчыняецца тып чалавечай адзінкі, захопленай палітыкай, але па думцы апалітычнай, далёкай ад мітусні.

Палітыка вабіць як магчымасць зменьваць рэальнасць фантазмамі. Больш за тое, удзел у палітыцы такой асобы — гэта форма таемнага пераадолення соцыума, кепікі знутры.

Ёсць версія, што Федэрыка Гарсія Лорку забілі, выконваючы асабісты загад каўдзільо-дыктатара Франка. Такога меркавання прытрымваецца даследнік Ян Гібсан. Лорка паехаў у Гранаду. І стаў раздражняльнікам, чырвонай анучай для набычанага поўдня Іспаніі. Сам генерал-дыктатар тлумачыў усё прагматычна: «У той момант трэба было прадбачыць любыя зваротныя дзеянні з боку левых. Таму даводзілася расстрэльваць самых вядомых сярод іх».

Адразу пасля забойства імя Лоркі было заліта ў Іспаніі памыямі. Кнігі забароненыя на сорак гадоў, каб цяпер, як водзіцца, яго помнік упрыгожыў цэнтр Мадрыда. Абываценя, падазраю, і без таго раўнадушнага, пераконвалі, што гэта няздара, агент замежжа, «левы тэрарыст» і ў дадатак вычварэнец (за апошняе і забіты).

Усё гэта было збольшага праўдай, уключаючы сюррэалістычныя адносіны Лоркі і Сальвадора Далі. Паклёп быў у галоўным. І насуперак гэтаму паклёпу Лорка таленавіты, як доўгае лета. Народжаны ў чэрвені, у жніўні забіты.

Між тым для многіх ён стаў знакам. Чырвоныя лапікі на рагах быка, радок, абарваны куляй, перамога праз паразу.

Дарэчы сказаць, ім трызнілі і паэты «савецкай адлігі». Яўгеній Еўтушэнка, напрыклад, пісаў:

*Когда убили Лорку, —*
*а ведь его убили! —*
*жандарм дразнил молодку,*
*красуясь на кобыле.*

(Лорку незадоўга да смерці прыцягнулі да суда за верш пра жандараў.)

Сёння Лорку ўспамінаюць рэдка. Летуценнікі — ганебныя ў эпоху герантакратыі, гэта значыць «любові да бабак». Але чамусьці, нібы дзякуючы пацешным і ўяўна ўсемагутным акалічнасцям антыпаэтычнасці, ён раптам становіцца сімвалічна важным…

Лепшыя пераклады вершаў Федэрыка Гарсія Лоркі на беларускую мову зрабіў Рыгор Барадулін у супрацоўніцтве з Карласам Шэрманам.

### З Федэрыка Гарсія Лоркі

Рыгор БАРАДУЛІН

#### Гарэзлівая песня

*Мама,*
*хачу быць са срэбра.*

*Сыне,*
*срэбра стыне.*

*Мама,*
*хачу быць з вады.*

*Сыне,*
*вадзе сцюдзёна ў даліне.*

*Мама,*
*на падушцы тваёй вышый мяне.*

*Зараз.*
*Чаму ж не.*

#### Няверная жонка

***Лідзіі Кабрэра***
***і яе негрыцяначцы***

*Паціху ішлі да рэчкі.*
*Здзівіўся, але не дужа:*
*думаў, вяду дзяўчыну,*
*а звёў я жонку ад мужа.*

*Было гэта ноччу Сант'яга.*
*Сваё загадалі далі —*
*ураз ліхтары пагаслі*
*і светлякі замільгалі.*
*На ўскраіне, быццам міжволі,*
*я грудзі крануў нявінна, —*
*яны расцвілі спрасонку,*
*як белы букет язміну.*
*Крухмал яе звонкай спаднічкі*
*мне вушы глушыў без жалю,*
*нібы небасхіл шаўковы*
*у сто нажоў разразалі.*
*А неба забралі дрэвы —*
*нідзе не відно прагалін.*
*І далягляду сабакі*
*далёка за рэчкай брахалі.*

*Калі размінуўся з чаротам,*
*з кустоўем, з калючай ажынай —*
*даверыў шаптацца косам*
*з мокрым пяском за сцяжынай.*
*Я гальштук распетліў нервова —*
*зняла яна ўборы памалу.*
*Рамень з рэвальверам адкінуў —*
*чатыры карсажы здымала…*
*Нарцыс ці жамчуг параўнацца*
*з целам яе не можа.*
*І шыбы пад промнямі поўні*
*так не блішчаць прыгожа.*
*Біліся ногі, як рыбіны,*
*што трапілі ў сеткі густыя, —*
*то спёкай блакітна гарэлі,*
*то месяцам белым стылі…*
*На самай гарачай кабыле*
*той ноччу я ехаў конна.*
*На самай лепшай дарозе*
*навошта аброць і страмёны?*

*Не выдам, бо я мужчына,*
*таго, што яна сказала,*
*розум мяне прымушае*
*паводзіць і сціпла, і стала.*
*На золку ў пяску, ў пацалунках*
*ад рэчкі адвёў яе я.*
*З паветрам на ўпартай дуэлі*
*скрыжоўвалі шпагі лілеі.*

*Я мужна, цыган фартовы,*
*трымаўся і чуўся, вядома,*
*калі падарыў ёй для шніва*
*кошык ярчэй ад саломы.*
*І не схацеў закахацца,*
*на гэта свая прычына:*
*ад мужа ўцякла да рэчкі,*
*а мне сказала: дзяўчына…*

#### Газела пра чарадзейнае каханне

*Сярод алебастру*
*лугоў змяіных*
*ты была асакой кахання,*
*вільготным язмінам.*

*Сярод ветру паўднёвага і агню*
*нябёсаў заклятых*
*у грудзях маіх шэптам снегу*
*была ты.*

*Нябёсы й лугі*
*закавалі рукі мае ў ланцугі.*

*Нябёсы, нябёсы,*
*паранілі цела маё*
*Вашага гневу восы.*

#### Калі б варажыць мог…

*Імя тваё*
*ў цёмныя ночы гукаю,*
*калі зоры ідуць*
*з поўнай поўні напіцца,*
*спіць лістота густая,*
*у лістоце галінам спіцца.*
*І адчуваю — я ўвесь з пустэчы,*
*а не з музыкі й страсці,*
*і, быццам*
*звар'яцелы гадзіннік шчасця,*
*буджу мінуўшчыну недарэчы.*
*Гукаю імя тваё*
*ў гэтую цемнач —*
*дарэмна!*
*Далёка гучыць*
*імя тваё як ніколі,*
*далей за ўсе зоры*
*ў касмічнай золі,*
*шчымлівей за ціхі лівень.*
*Ці калі-небудзь змагу,*
*як тады, пакахаць цябе*
*і тваю тугу?*
*Якой віной*
*наклікала сэрца бяду?*
*Калі туман развіднее,*
*ці страсць другую знайду?*
*Можа, чыстую, без трывог,*
*што мяне ўсяго перапоўніць?*
*Калі б варажыць мог*
*на пялёстках поўні…*

#### Лямант

*На вежы*
*жоўтай*
*канае звон.*

*На ветры*
*жоўтым*
*водзван чуцён.*

*У вянку*
*звялі краскі,*
*сцежкай чорнай*
*ступае*
*смерць,*
*на ласкі*
*скупая.*
*Песню*
*пяе і пяе*
*гітара беларэбрая*
*у яе,*
*пяе, і пяе, і пяе.*

*Вецер страсае срэбра*
*з кожнай пылінкі тае.*

# Сакрыс Тапеліюс: Не толькі казачнік

Алена ДАРАФЕЕВА

***Сёлета споўнілася 205 гадоў з дня нараджэння фінска-шведскага пісьменніка Сакрыса Тапеліюса (1818—1898), які вядомы найперш сваімі казкамі.***

***Падобна да Х. К. Андэрсана, Сакрыс Тапеліюс (па-фінску Zachris Topelius, па-шведску Zacharias Topelius) увайшоў у гісторыю літаратуры, перш за ўсё, як аўтар казак для дзяцей, хоць сам ніколі не лічыў сябе дзіцячым пісьменнікам. Ён валодаў шматгранным талентам і дзіўнай працаздольнасцю: поўны збор твораў фінскага аўтара налічвае 34 тамы.***

***С. Тапеліюс пісаў на шведскай мове, хоць выдатна валодаў і фінскай, а яго кнігі перакладзены больш чым на 25 моў свету.***




Сакрыс Тапеліюс. Фота з архіва SLS (Шведскага літаратурнага таварыства Фінляндыі)

## Тапеліюс-старэйшы і Тапеліюс-малодшы

Сакрыс Тапеліюс нарадзіўся ў сям'і шведскіх фінаў у маёнтку Кюднэс непадалёк ад Уусікарлепію зямлі Эстэрботнія Вялікага Княства Фінляндскага. Яго бацька, Сакрыс Тапеліюс-старэйшы (1781—1831), быў лекарам і збіральнікам народнай паэзіі. Стваральнік «Калевалы» Эліяс Лённрот называў яго сваім папярэднікам і піянерам у галіне збору карэльскіх народных рун.

Тапеліюс-малодшы атрымаў выдатную хатнюю адукацыю, з юнацтва шмат чытаў. Ужо ў дзяцінстве выявіліся яго мастацкія здольнасці: багатае ўяўленне, назіральнасць, цікавасць да таямнічага і містычнага.

У сям'і размаўлялі на шведскай мове, але калі хлопчыку споўнілася адзінаццаць, яго адправілі ў школу горада Оулу (Улеаборг), каб ён авалодаў фінскай мовай і загартаваў характар. Праз тры гады юнак паехаў у сталіцу Гельсінгфорс (Хельсінкі) для падрыхтоўкі да іспыту на атэстат сталасці. У 1833 годзе, ва ўзросце пятнаццаці гадоў, Тапеліюс здаў іспыт і паступіў ва ўніверсітэт.

Яго навуковая кар'ера развівалася імкліва: у дваццаць дзевяць ён стаў доктарам гістарычных навук, а яшчэ праз сем гадоў — прафесарам. Тапеліюс доўгія гады выкладаў у Імператарскім Аляксандраўскім універсітэце, а з 1854 па 1878 гады быў яго рэктарам.

У студэнцкія гады Тапеліюс быў захоплены ідэямі рамантызму, асноўны росквіт якога прыпаў у Фінляндыі на 1830—1850-я гады. Цікавасць да народнай культуры, яе вытокаў, успрынятая ад гейдэльбергскіх рамантыкаў, была ў тыя гады незвычайна моцнай. Гэта быў час пераасэнсавання еўрапейскай культурнай спадчыны на нацыянальнай культурнай глебе, небывалага захаплення фальклорам, этнаграфіяй, збіральніцкай дзейнасцю. Усё гэта знайшло адлюстраванне і ў лірыцы Тапеліюса, і ў яго кнігах па гісторыі і геаграфіі Фінляндыі: «Фінляндыя ў малюнках», маштабная праца «Фінляндыя ў XIX стагоддзі», а таксама самая вядомая на радзіме кніга Тапеліюса — «Кніга пра нашу краіну» (1875), якая вытрымала больш за 80 перавыданняў у Фінляндыі і Швецыі і ажно да 1940 года ўваходзіла ў абавязковы спіс твораў школьнай праграмы.

## Паэзія і каханне

Літаратурным дэбютам Сакрыса Тапеліюса стаў зборнік вершаў «Кветкі верасу» (1845). Для яго ранняй лірыкі характэрная свабодная, нязмушаная лірычнасць, тэмы кахання і прыроды. Найбольшае прызнанне атрымалі вершы з цыкла «Сільвія», многія з якіх былі пакладзены на музыку. Сярод іх «Летні дзень у Кангасала», «У цені рабіны і бэзу». Апошні верш класік шведскай літаратуры Аўгуст Стрындберг прылічаў да найпрыгожых паэтычных твораў і ўключыў яго ў сваю п'есу «Сярэдзіна лета» (1900).

У 1845 годзе Тапеліюс ажаніўся са сваёй зямлячкай — Эміліяй Ліндквіст (1821—1885). Яна валодала літаратурным і мастацкім талентам і стала ілюстраткай адной з першых дзіцячых кніг пісьменніка — «Казкі» (1847). Ілюстрацыі былі чорна-белымі, але пасля выхаду ўсяго наклада Эмілія ўласнаручна размалявала ілюстрацыі ва ўсіх 500 (!) экзэмплярах.

У іх сямейным жыцці было, аднак, нямала трагічных падзей: з шасцярых дзяцей толькі тры дачкі дажылі да дарослага ўзросту...

## Першы фінскі гістарычны раман

Сакрыс Тапеліюс стаў аўтарам першага гістарычнага рамана ў фінскай літаратуры. У другой палове 1840-х гадоў ён пачаў пісаць маштабны твор «Апавяданні фельчара», які выходзіў часткамі ў 1853—1867 гадах. Увогуле гэта было васямнаццаць раманаў, аб'яднаных у пяць тэматычных цыклаў. Яны ў займальнай форме апавядалі пра гісторыю Фінляндыі, Швецыі, а таксама Расійскай імперыі і Нямеччыны.




Тытул «Кнігі пра нашу краіну»

Тапеліюс шмат у чым працягваў традыцыю гістарычных раманаў Вальтэра Скота. Цікавасць да роднай даўніны, народнай творчасці, любоў да моцных страсцей і ўстойлівых характараў — усё гэта зрабіла яго кнігі незвычайна папулярнымі, асабліва сярод моладзі.

У цэнтры апавядання гісторыі двух родаў: дваранскага роду Бертэльшэльдаў і выхадцаў з сялянскага саслоўя Ларсанаў у перыяд з 1632 па 1772 гады. Матэрыялам для Тапеліюса паслужылі як гістарычныя крыніцы, так і вусныя народныя паданні. Аўтар, з аднаго боку, скрупулёзна і дэталёва, але ў той жа час паэтычна і ў рамантычным святле прадстаўляе чытачу старонкі гісторыі; апісанні бітваў і ваенных паходаў перамяжоўваюцца лірычнымі эпізодамі.

## Журналістыка і грамадскае жыццё

Паралельна з выкладчыцкай працай і літаратурнай творчасцю Сакрыс Тапеліюс многія гады працаваў журналістам. З 1841 па 1860 год быў рэдактарам газеты «Helsingfors Tidningar» і за дваццаць гадоў цалкам змяніў яе аблічча. Разам з артыкуламі пра актуальныя сацыяльныя і эканамічныя пытанні, праблемы адукацыі і выхавання, ён публікаваў у газеце і ўласныя творы (вершы, апавяданні), якія пазней былі выдадзены ў выглядзе кніг.

Тапеліюс вёў неверагодна актыўнае грамадскае жыццё. Ён быў сакратаром «Таварыства фінскай флоры і фаўны», першым старшынёй заснаванага ў 1864 годзе «Таварыства мастакоў», старшынёй «Таварыства помнікаў старажытнасці Фінляндыі», а таксама быў абраны старшынёй сталічнага... «Дамскага таварыства».

З 1867 года Тапеліюс быў членам камітэта па выданні кнігі псалмоў на шведскай мове. У канчатковы варыянт псалтыра ўвайшлі каля 30 арыгінальных псалмоў паэта і 13 яго перакладаў. Самым вядомым стаў калядны псалом «Не шукаю ні ўлады, ні бляску...».

І менавіта Сакрыс Тапеліюс быў першым, хто прапанаваў выбраць колерамі сцяга Фінляндыі белы (колер снежных раўнін) і сіні (колер яе шматлікіх азёр).

## «Дзіцячае чытанне» і познія гады

У 1878 годзе, пасля сыходу ў адстаўку з пасады рэктара сталічнага ўніверсітэта, С. Тапеліюс атрымаў, як тады належала, тытул стацкага саветніка і пераехаў са сталіцы ў невялікі маёнтак Сібба. Там ён купіў сядзібу Б'ёркуддэн, дзе і пражыў да самай смерці.

У 1880-я гады пісьменнік інтэнсіўна працаваў над цыклам «Дзіцячае чытанне», куды ўвайшлі вершы, апавяданні, п'есы і казкі для дзяцей. Хоць сам Тапеліюс не лічыў казкі галоўным накірункам у сваёй творчасці, але ў старасці, а асабліва пасля смерці пісьменніка за ім трывала замацаваўся вобраз майстра-казачніка.

На яго чарадзейных гісторыях выраслі многія пакаленні дзяцей у Фінляндыі, Швецыі і ў іншых краінах.

С. Тапеліюс успамінаў, як, будучы маленькім хлопчыкам, слухаў дзіўныя казкі сваёй старой няні: аб чароўнай гары Растэкайс, пра аленя з пазалочанымі рагамі, пра адважнага хлопчыка Сампо, пра страшнага горнага караля Хійсі, пра ведзьмакоў і фей: *«Мы, малыя, слухалі яе дзівосныя апавяданні... Я вырас, верачы ў тое, што ў прыродзе ўсё жыве, адчувае, размаўляе».* Вялікі ўплыў аказалі на Тапеліюса і казкі Андэрсана: *«Яны зачароўваюць дзіця, таму што дзеянне гэтых гісторый нязмушана рухаецца ў коле яго звыклых уяўленняў, і кожная намаляваная ў іх карціна, кожны жарт ён успрымае як свае ўласныя. У тым, каб пісаць так проста, і заключаецца найвялікшае мастацтва».*

У сваіх казках Сакрыс Тапеліюс таксама прытрымліваўся прынцыпу знешняй прастаты і немудрагелістага аповеду. Ён расказваў пра прыгоды звычайных фінскіх хлопчыкаў і дзяўчынак. Смеласць, вынаходлівасць, прага дзейнічаць і вера ў Бога дапамагаюць ім справіцца са злымі сіламі, перамагчы троляў і волатаў.

У казках Тапеліюса можна знайсці вобразы са скандынаўскай міфалогіі, фінскага эпасу «Калевала», саамскіх народных казак.

Адна з самых любімых у Фінляндыі казак — «Бярозка і зорка». Гэта кранальная гісторыя пра лёс брата і сястры, якія ў гады вайны і голаду былі адпраўлены бацькамі з Фінляндыі ў Швецыю. Там у прыёмнай сям'і іх палюбілі і выхоўвалі як уласных дзяцей. Але калі самы страшны час мінуў, дзеці даведаліся, што могуць вярнуцца дадому і не маглі больш думаць ні пра што іншае. Усё, што яны памяталі пра бацькоўскі дом, гэта гучанне мовы, на якой размаўлялі бацькі, і высокую бярозку ў двары, скрозь лістоту якой свяціла вечарамі зорка. Аднойчы ноччу дзеці адправіліся ў небяспечнае падарожжа і праз два гады здолелі адшукаць бацькоўскі дом.

Казкі Тапеліюса відавочна выяўляюць хрысціянскі погляд аўтара на свет, але яны не сумна павучальныя, а поўныя жыцця, прыгодаў, нечаканых паваротаў у развіцці дзеяння. Часта перад чытачом паўстае свет жывой, адухоўленай прыроды.

У 1885 годзе памерла жонка Тапеліюса Эмілія. Пісьменнік цяжка перажываў страту, што вылілася ў сур'ёзную хваробу страўніка. Урачы прапанавалі лячэнне ў Нямеччыне, дзе пісьменнік прабыў амаль паўгода. А ў 1886-м Шведская Акадэмія ўзнагародзіла Тапеліюса Вялікім залатым медалём. Гэтая вестка імгненна разляцелася па Б'ёркуддэну і зрабіла жыватворнае ўздзеянне на пісьменніка.

У апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця Сакрыс Тапеліюс працягваў працаваць. Ён пайшоў з жыцця 12 сакавіка 1898 года ў Б'ёркуддэне ва ўзросце 80 гадоў.

Апошняя яго кніга, «Лісткі з кнігі маіх думак», выйшла ў свет ужо пасля смерці пісьменніка.

Нядаўна ў выдавецтве «Тэхналогія» выйшла кніга С. Тапеліюса «Ледзяны волат» у перакладзе са шведскай мовы Алесі Башарымавай (ілюстрацыі Уладзіслава Пятровіча.)

***Пераклад з рускай.***

# Пулітцэраўская прэмія-2023

Сталі вядомымі імёны лаўрэатаў Пулітцэраўскай прэміі 2023 года — прэстыжнай і адной з самых вядомых амерыканскіх узнагарод у галіне літаратуры, журналістыкі, тэатра і музыкі.

Лаўрэатамі «Пулітцэра» ў галіне літаратуры сталі Барбара Кінгсолвэр за раман «Дэман Меднагаловы» (Demon Copperhead) і Эрнан Дыяс за кнігу «Давер» (Trust).

Дэман Меднагаловы — гэта мянушка апавядальніка Дэймана. Раман запазычае сваю апавядальную структуру са знакамітай кнігі Чарльза Дзікенса. Гісторыя распавядае пра мудрага хлопчыка з Апалачаў, пра яго сутыкненні з беднасцю, залежнасцю, інстытуцыянальнымі няўдачамі і маральным крахам — і пра яго намаганні па іх пераадоленні.

У анатацыі да рамана «Давер» гаворыцца, што дзеянне яго адбываецца ў Амерыцы мінулага, а расповед засяроджаны на адной багатай і амбіцыйнай сям'і, пры гэтым сам тэкст прадстаўлены ў розных літаратурных стылях. Гэта складаны аналіз кахання і ўлады ў краіне, дзе кіруе капіталізм.

Упершыню Пулітцэраўская прэмія была ўручана ў 1917 годзе ў дзень нараджэння Джозэфа Пулітцэра. Ён вядомы не толькі "аднайменнай" прэміяй — менавіта Пулітцэр шмат у чым «прыдумаў» сучасную журналістыку, у тым ліку спосаб стварэння сенсацыі і формулу ідэальнага загалоўка.

На прэмію ў галіне літаратуры і музыкі могуць прэтэндаваць грамадзяне ЗША, а за ўзнагароду ў галіне журналістыкі могуць змагацца і прадстаўнікі іншых краін, чые працы публікаваліся ў паўночнаамерыканскіх СМІ.

Джозэф Пулітцэр (1847 – 1911) журналіст і газетны магнат венгерска-яўрэйскага паходжання, памёр у 1911 годзе. Паводле запавету быў заснаваны Фонд яго імя — на пакінутыя дзеля гэтага два мільёны даляраў. Запавет быў складзены 17 жніўня 1903 года. Гэты дзень лічыцца датай заснавання Пулітцэраўскай прэміі. Яе грашовы памер — 15 тысяч даляраў ЗША. Значна больш ацэньваецца прэстыж лаўрэацтва.

Рэй Брэдберы, Маргарэт Мітчэл, Эрнэст Хэмінгуэй, Джон Стэйнбек, Уільям Фолкнер, Уістэн Х'ю Одэн, Роберт Фрост... Шматлікія празаікі, паэты, мастакі, карыкатурысты, музыканты, кампазітары, фатографы... Што аб'ядноўвае гэтых розных людзей? Усе яны былі лаўрэатамі Пулітцэраўскай прэміі.

# Міжнародная Букераўская прэмія – 2023

Журы Міжнароднай Букераўскай прэміі агучыла імя пераможцы 2023 года за лепшы перакладзены на англійскую мову і апублікаваны ў Вялікабрытаніі ці Ірландыі мастацкі твор.

Лаўрэатам стаў 55-гадовы балгарскі пісьменнік, уладальнік прэмій «Angelus» і «Strega» Георгі Гаспадзінаў з раманам «Time Shelter» («Часасховішча»).

Узнагароду з пісьменнікам падзяліла перакладчыца яго рамана з балгарскай на англійскую Ангела Родэл.

Па сюжэце кнігі таямнічы амбіцыйны містыфікатар Гаўстын адкрывае першы ў свеце цэнтр «Вяртанне мінулага». Гэтая ўстанова прапануе незвычайны метад лячэння пацыентаў з хваробай Альцгеймера. Кожны паверх будынка з дакладнасцю ўзнаўляе тое ці іншае дзесяцігоддзе (дэкарацыі, рэчы і пад.), дазваляючы людзям увасрасіць успаміны, здавалася б, назаўсёды страчаныя. Будучы памочнікам Гаўстына, апавядальнік ахвотна ўключаецца ў гульню. Але чым больш пераканаўчай становіцца інсцэніроўка, тым больш здаровых людзей пачынае звяртацца ў клініку, каб вырвацца з тупіка паўсядзённага жыцця, — будучыня ўжо нікога не прыцягвае, усе хочуць вярнуцца ў мінулае...



Ангела Родэль і Георгі Гаспадзінаў

Фота з сайта Міжнароднай Букераўскай прэміі

Міжнародная Букераўская прэмія была заснавана ў 2005 годзе. У адрозненне ад Букераўскай прэміі, якая штогод прысуджаецца толькі англамоўным аўтарам з Вялікабрытаніі, Ірландыі і краін Брытанскай Садружнасці, Міжнародны «Букер» уручаецца замежным пісьменнікам, чые кнігі перакладзены на англійскую мову. У 2016 годзе прэмію ўпершыню ўручылі за пэўную кнігу, а не за творчасць у цэлым. З гэтага ж года было прынятае рашэнне прысуджаць Міжнародную Букераўскую прэмію штогод. Лаўрэаты Міжнароднага «Букера» (аўтар і перакладчык) пароўну дзеляць прыз у памеры 50 тысяч фунтаў стэрлінгаў.

# Прэмія Шэйха Заіда

Прэмія Шэйха Заіда (SZBA) — адна з вядучых сусветных узнагарод з прызавым фондам амаль 2 мільёны долараў ЗША — абвесціла спіс пераможцаў 2023 года.

У гэтым сезоне была пададзена рэкордная колькасць твораў: 3151 праца ад прэтэндэнтаў з 60 краін.

«Мы рады ўзнагародзіць выдатных пісьменнікаў, навукоўцаў і выдаўцоў, якія ўзбагачаюць арабскае культурнае, літаратурнае і сацыяльнае жыццё, — адзначыў доктар Алі бін Тамім, генеральны сакратар прэміі і старшыня Цэнтра арабскай мовы Абу-Дабі. — Новы рэкорд па колькасці пададзеных заявак з'яўляецца сведчаннем каштоўнасці і прэстыжу прэміі для выдаўцоў і аўтараў. Да ўдзелу ў наступным сезоне мы рады запрасіць суіскальнікаў з Украіны, Расіі, Беларусі».

Лаўрэатам прэміі 2023 года ў намінацыі «Літаратура» стаў іракскі аўтар Алі Джафар аль-Алак з аўтабіяграфічнай паэмай «Whereto O Poem?».

Узнагарода ў намінацыі «Арабская культура на іншых мовах» дасталася французскаму аўтару Мацье Тылеру за кнігу «Вынаходства Кадзі: Правасуддзе мусульман, іудзеяў і хрысціян у першыя стагоддзі ісламу».

Лепшым маладым аўтарам стаў пісьменнік Саід Хацібі з творам «Канец пустыні», у якім ён асэнсоўвае доўгатэрміновыя наступствы Алжырскай вайны за незалежнасць. Гэта адзін з рэдкіх гістарычных дэтэктываў у сучаснай арабскай літаратуры.

У намінацыі «Літаратурная і мастацкая крытыка» перамогу атрымала Джаліла Аль Трытара з Туніса з кнігай «Жаночы погляд: даследаванне твораў арабскіх жанчын», якая даследуе спосабы самавыяўлення ў арабскім свеце.

Тунісец Чокры аль Саіідзі ўзнагароджаны за пераклад з англійскай на арабскую кнігі амерыканскага філосафа і прафесара лінгвістыкі Джона Сёрла «Выраз і значэнне: вывучэнне тэорыі маўленчых актаў».

# Новы раман Маркеса

Пасля смерці калумбійскага пісьменніка Габрыэля Гарсія Маркеса (1927—2014) пайшлі чуткі, што ёсць некаторыя яго неапублікаваныя творы. І гэта пацвердзілася: у наступным годзе выйдзе непублікаваны раней твор прадстаўніка магічнага рэалізму.

«Penguin Random House» анансаваў выданне рамана «En Agosto Nos Vemos» («Убачымся ў жніўні»).


Габрыэль Гарсія Маркес

Фота AFP

Перад смерцю пісьменніка шмат хто чакаў, што ён піша свой новы раман — у 1999 годзе ён апублікаваў новае апавяданне ў калумбійскім часопісе «Cambio», якое лічылася першай часткай новай кнігі. У гэтай навэле распавядаецца гісторыя Ганны Магдалены Бах, жанчыны сярэдніх гадоў, якая наведвае трапічны востраў, каб ускласці кветкі на магілу сваёй маці. Там у яе завязваюцца рамантычныя адносіны...

Пасля смерці Маркеса ягоныя дзеці не хацелі публікаваць няскончаныя творы бацькі, але ў нядаўна апублікаваным заяве патлумачылі, чаму перадумалі. Маўляў, прачытаўшы гэты твор, адчуваюць, што ў ім ёсць тое, чым славіўся аўтар: вынаходлівасць, паэтычнасць мовы, разуменне чалавечай прыроды, а галоўная тэма ўсёй яго творчасці — каханне.

150-старонкавая кніга будзе мець пяць раздзелаў, кожны з якіх распавядае пра гісторыю галоўнай гераіні Ганны Магдалены Бах.

# Да 100-годдзя Віславы Шымборскай

Ягелонскі ўніверсітэт Польшчы абвясціў два конкурсы ў гонар паэтэсы, лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі Віславы


Вісалава Шымборска

Фота PAP

Шымборскай (1923—2012). Да 100-годдзя з дня нараджэння (адзначаецца 2 ліпеня) паэткі факультэт паланістыкі ўніверсітэта заснаваў конкурс вершаў «Наследаванне Шымборскай» і конкурс «Мемы пра Шымборскую» з выкарыстаннем вобраза паэткі.

Як паведаміла прэс-служба Ягелонскага ўніверсітэта, конкурс «Наследаванне Шымборскай» адрасаваны студэнтам усіх універсітэтаў Кракава, дзяржаўных і прыватных. Задача ўдзельнікаў — напісаць верш, які з'яўляецца парафразам, пародыяй, персіфляжам ці іншым пераймannем аднаго з дзесяці вершаў Віславы Шымборскай, прапанаваных арганізатарам. Конкурс «Мемы пра Шымборскую» адрасаваны людзям, якія навучаюцца ва ўсіх сярэдніх школах Кракава, дзяржаўных і прыватных, а таксама ў сярэдніх школах па ўсёй Польшчы, якія носяць імя Віславы Шымборскай. Старшакласнікам неабходна стварыць графічны твор — мем — на аснове аднаго з пяці фотаздымкаў Віславы Шымборскай.

Абвяшчэнне вынікаў конкурсу — адзін з пунктаў чэрвеньскай праграмы святкавання Дня Шымборскай. Матэрыяльныя ўзнагароды для пераможцаў спансуюць Фонд імя Віславы Шымборскай і Ягелонскі ўніверсітэт.

# Паэтычная анталогія Вільні

Выйшаў віленскі паэтычны альманах «Mačiau Vilnių» («Я бачыў Вільню»), які ўклаў Міндаўгас Квяткаўскас. 90 паэтаў, больш за 300 вершаў, чатыры дзясяткі фотаздымкаў і амаль 400 старонак — такі падарунак зрабілі да 700-годдзя Вільні.

Выданне было складзена як своеасаблівая мапа Вільні з галоўнымі мясцінамі горада, вуліцамі, помнікамі архітэктуры, якія «асвяцілі» паэты розных часоў і моў, і разам з тым — з рэчамі, якія не ўпісваюцца ў фізічную прастору: аблокамі, міфамі і марамі. У кнізе Вільня паўстае не толькі як крыніца паэзіі, якая натхнае паэтаў розных дзяржаў, але і як своеасаблівы персанаж, істотныя рысы якога паўтараюцца ў тэкстах розных эпох, адначасова здзіўляючы нечаканымі адкрыццямі.

Хоць большую частку кнігі складаюць творы сучасных паэтаў, але асаблівая ўвага тут надаецца паэтычнай традыцыі Вільні: паэтам, якія пісалі на польскай, ідыш, беларускай, украінскай і рускай мовах і жылі ды тварылі ў Вільні.

Як прызнаўся ўкладальнік і перакладчык гэтай анталогіі М. Квяткаўскас, «разам з калегам Альвідасам Шляпікасам мы чыталі часткова выбраныя вершы сучасных паэтаў, адначасова я адбіраў і перакладаў шматмоўныя тэксты паэтычнай традыцыі Вільні, а напачатку мы думалі, што таксама складзем анталогію паводле аўтараў. Але чым далей, тым больш гэтыя тэксты далучаліся да пэўных паэтычных месцаў. Дзіўна было даведацца, як канкрэтныя вуліцы і раёны Вільні натхняюць розных паэтаў у розныя часы і становяцца месцамі для іх вершаў... Зразумела, мы ўключылі ў анталогію не ўсіх вядомых паэтаў і не ўсе вершы з паэтычнай традыцыі Вільні. Можна сказаць, што мы ішлі шырокімі крокамі, як бы пазначаючы кропкамі істотныя паэтычныя моманты: ад самых знакамітых літаратурных імёнаў Вільні — Адама Міцкевіча, ад пачаткаў літоўскай паэзіі ў Вільні, што звязваецца з Сымонам Станевічусам, да беларускага класіка Янкі Купалы ці ўкраінца Тараса Шаўчэнкі... Рыхтуючы гэтую кнігу, мне было надзвычай важна, каб у ёй з'явілася як мага больш забытых імёнаў, якія засталіся ў цені нашай культурнай гісторыі...».




Фота 15min.lt